*Залатое руно* ➔3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


*Турнір у Кляшчэлях* ➔ 12




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 23 (2925) Год LVII | Беласток, 3 чэрвеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Беларуская мова — малаістотная справа

Ганна КАНДРАЦЮК

Напрыканцы красавіка, калі настаўніца Альжбета Раманчук вярнулася з мацярынскага водпуску, ёй абвясцілі, што з верасня 2012 года заступіць яе іншы спецыяліст па беларускай мове.




Чаромха — сямідзесятыя гады (фота з архіва ГАК у Чаромсе)

Я магла спадзявацца такога, паколькі ў Чаромсе ў мяне было толькі шэсць гадзін і з-за гэтага я атрымала працоўны дагавор на пэўны тэрмін. Паціху аднак верыла, што дапамогуць мне папоўненыя кваліфікацыі і жыццёвая сітуацыя, — кажа Альжбета Раманчук.

Каб назбіраць урокаў на поўны штат, цягам апошніх гадоў яна — выпускніца беларусістыкі — завяршыла ў завочнай сістэме факультэт гісторыі і бібліятэказнаўства. Мабільнасць спадарыні Рамнчук уражвала да мозгу касцей. Цягам працоўнага тыдня яна даязджала з Чаромхі яшчэ выкладаць беларускую мову ў Гарадок і Залукі, дзе атрымала званне дыпламаванага настаўніка, заваявала аўтарытэт калег, сімпатыю вучняў і бацькоў. Яе дзеянні на беларускай ніве прыкмецілі таксама ў роднай Чаромсе. У час мінулагодняй калядной сустрэчы, якая адбывалася ў Гмінным асяродку культуры, дзеткі паставілі беларускі спектакль. Пра здарэнне з цеплынёй пісаў наш карэспандэнт, родам з недалёкай Кузавы. Таму рашэнне дырэкцыі аб звальненні Альжбеты Раманчук здалося недарэчным і крыўдным для беларускага асяроддзя.

## Дзесяць душ — дзесяць адсоткаў!

З Марыёляй Шыманчук, якая з пачаткам новага школьнага года стала кіраваць Прадшкольна-школьным комплексам у Чаромсе, гутарым спачатку пра поспехі ў прадметных конкурсах па польскай мове, гісторыі, інфарматыцы і ў настольным тэнісе. Тут як нідзе папулярныя пазаўрочныя гурткі зацікаўленняў, дзе прыходзіць ажно 131% ад агульнай колькасці вучняў. Як гэта магчыма?

— Некаторыя вучні прыходзяць на два або больш гурткоў, — паясняе мая субяседніца.

Спачатку наша размова трымаецца сухіх фактаў, значыць, лічбаў, таму на пытанне пра колькасць навучэнцаў беларускай мовы зноў атрымаю інфармацыю ў адсотках. Іх — 10 адсоткаў. І літаральна дзесяць душ! Як гэта магчыма? Бо ж агульны лік вучняў у цэлым ПШК ажно 315 асоб. Пры тым пані дырэктар — матэматык.

— Гэтых дзесяць адсоткаў датычыць адно вучняў пачатковай школы, — чую ў адказ, — бо толькі там вядзецца навучанне...

— Дык чаму не наладзіце ўрокаў у гімназіі ці ў прадшколлі?

У іншай школе працяг навучання здаваўся б лагічнай паслядоўнасцю. Аднак не ў Чаромсе. Тут натуральным працягам, як у постсавецкай Беларусі, з’яўляецца... руская мова. Праўда, разам з англійскай, лічыцца яна другой замежнай абавязковай мовай...

— Няма ахвотных вывучаць беларускую мову ў гімназіі, — кажа дырэктар.

У справе звальнення Альжбеты Раманчук вырашыў юрыдычны выкрутас, бо настаўнікаў, у якіх дагавор аб працы заключаны на пэўны тэрмін, найлягчэй прагнаць са школы. З’ява датычыць многіх падляшскіх школ, дзе ў падобным стылі рашылі ратаваць фінансы самаўрадаў. Тое, што Альжбета Раманчук працавала, нікога ў Чаромсе не цікавіла.

— Тады скажыце, як ацэньваеце спадарыню Раманчук як настаўніцу, — пытаю ў дырэкцыі.

— У мяне няма асноў, каб яе ацаніць добра ці дрэнна, — кажа Марыёля Шыманчук, — замала часу. Пры мне яна працуе ўсяго тры тыдні...

Каб даказаць, што звальненне настаўніцы з немаўлём пры грудзях прынясе грамадству лепшае заўтра, пані дырэктар паказала падрыхтаваны спісак з прозвішчамі 15 навучэнцаў, якія прыйдуць на беларускую мову ў 2012/2013 школьным годзе. Той лісток паперы, з прыгожа каліграфічна выведзенымі імёнамі і прозвішчамі, здаўся найбольш гуманным элементам у цэлай сустрэчы.

## А дзе мне ўзяць грошы?

— Калі я стаў войтам, звярнуўся да спадароў Сычэўскага і Вапы, каб дапамаглі нам з навучаннем беларускай мовы, — кажа Юры Шыкула. — Па сённяшні дзень ніхто з іх у мяне не з’явіўся. Я ўсё чакаю дапамогі з іх боку, бо тут на месцы ў мяне звязаныя рукі.

З гаспадаром гміны сустракаемся ў яго задбаным кабінеце, пры гарбатцы і шакаладных цукерках. Спачатку размаўляем пра двухмоўныя ўказальнікі ў Арлянскай гміне. У майго субяседніка няма ўпэўненасці ці такія дарожныя знакі патрэбныя. На шчасце ў яго гміне пакуль ніхто з радных не патрабаваў указальнікаў на мове меншасцей. І слава Богу, хай астанецца як ёсць.

— Вы кажаце, нічога не можацце зрабіць для беларускай мовы? — далікатна працягваю тэму. — То тады хто можа? Вы ж тут гаспадар.

— Калі я дапамагу адным, мяне папракнуць іншыя нацыянальнасці, што вылучаю беларусаў. А мне трэба быць пасярэдзіне. Думаць пра ўсіх аднолькава... — чую ў адказ.

У Чаромсе інакш, чым дзе на Беласточчыне, разумеюць падтрымку для свету ідэі. Найлепш, каб заняліся ёю людзі звонку, у якіх магчымасці і грошы. Як украінцы. Яны за свой кошт прывозяць падарункі дзецям, выпраўляюць іх на экскурсіі. У карысць развіцця іх школьніцтва працуе украінскі маладзёжны гурт пры Гмінным асяродку культуры, які, дарэчы, вядзе настаўніца пачатковага навучання з мясцовай школы.

— Дык для раўнавагі арганізуйце такі ж музычны гурт для беларусаў, — прапаную войту.

Мая прапанова не надта падабаецца гаспадару гміны.

працяг ☞10





# За мурам

*Кожны раз, калі даводзіцца на некаторы час пакідаць Беларусь, вяртаешся з нейкім чаканнем станоўчых перамен. Гэтае пачуццё не грунтуецца абсалютна ні на чым, акрамя падсвядомага і натуральнага жадання ўбачыць нешта іншае, лепшае. Вось і зараз, тыдзень не бачыўшы ні тэлевізара, ні газет, ні камп'ютара, з пэўным трымценнем у душы ўключыў інтэрнэт і стаў глядзець сайты. Аднак, цуды на гэтым свеце здараюцца не так часта. Навіны ўсё ж тыя: вось за бел-чырвона-белы сцяг, які нёс у руках звычайны хлопец Андрэй Мойчан на знак падтрымкі асуджанага Сяргея Каваленкі, прадстаўнікі міліцыі жорстка яго збілі. Збілі так, што зламалі сківіцу. І натуральна паўстае пытанне: хто гэтыя людзі з дзяржаўных структур — „ахоўнікі парадку" ці бандыты кшталту фашысцкіх эсэсаўцаў?! Дык якую перамогу і над кім нядаўна святкавала ўся Беларусь? Вось хапаюць праваабаронца і былога „афганца" Алега Волчака і валакуць у турму на чарговыя суткі арышту нібыта за брыдкаслоўе. Вось яна — „павага" да ветэранаў вайны. У той час як на вуліцах сапраўды лаюцца брудным матам скрозь і паўсюдна, але шматлікая міліцыя на гэта не рэагуе. У самой міліцыі гэта працоўная мова, яны па-іншаму і размаўляюць з цяжкасцю.*

*Перад прыездам у Мінск „высокага госця" Уладзіміра Пуціна сілавыя структуры ўзяліся „зачышчаць" горад ад „Маладога фронту". Іх генеральная мэта — увогуле ачысціць Беларусь ад беларусаў. Знішчыць усіх беларускамоўных беларусаў. А астатніх пераўтварыць, перарабіць у расійцаў, „саўкоў", манкуртаў. Як што — на дапамогу гатовыя прыйсці маскоўскія „сілы калектыўнай бяспекі". Расійская Дзяржаўная Дума ўжо ратыфікавала адпаведнае пагадненне. І прыезд Пуціна мусіць яшчэ раз зацвердзіць курс на няўхільнае, як ім здаецца, „аб'яднанне".*

*Вяртаючыся ў Беларусь, чарговы раз заўважаеш, што мы апынуліся за мурам, які аддзяляе нашу краіну ад еўрапейскай цывілізацыі. І гэты мур, які ўжо знікаў у сярэдзіне дзевяностых гадоў, зараз толькі расце. Не скажу, што мне асабліва падабаецца цяперашняе развіццё Еўропы. Невыпадкова там таксама перажываюць амаль глабальны крызіс, а правы чалавека часам даводзіцца да абсурду. Але ж чалавек практычна ў кожнай еўрапейскай краіне з нараджэння мае права на годнае жыццё, на асноўныя чалавечыя свабоды. Адно вольнае перамяшчэнне праз мяжу бальшыні краін чаго варта! А вось, беларусы як у клетцы, выравацца з якой няпроста. Нібыта і мяжа не зачынена як пры Савецкім Саюзе, але для бальшыні атрымаць візу становіцца ўсё цяжэй, пераехаць граніцу — гэта таксама вялікая праблема. Даўжэзныя чэргі на аўтамабільных пераходах, кепская чыгуначная і аўтобусная камунікацыя, выбрыкі мытнікаў — усё гэта неад'емныя элементы кожнага падарожніка, які перасякае мяжу. Дэкларацыі пра малы транспамежны рух, якія гучалі адусюль, ужо даўно сталі папулярнай тэмай для анекдотаў. Затое Рэспубліка Беларусь падпісала безліч нейкіх пагадненняў у межах постсавецкіх міждзяржаўных структур, разабрацца ў якіх здольны не кожны. Але дастаткова паставіць простае пытанне — што дае практычна, прыкладам, бязвізавы ўезд жыхарам Беларусі ва Узбекістан, каб зразумець усю „тэарэтычнасць" і абсурднасць гэтых пагадненняў.*

*Вось у той жа Польшчы зараз напярэдадні футбольнага еўрачэмпіянату амаль хаос — дарогі развалены, недароблены, на іх вялікія заторы, на варшаўскіх вакзалах анархія. Даехаць кудысьці на час амаль немагчыма. Але Польшча і Украіна хоць збіраюцца на гэтым чэмпіянаце зарабіць. І ўрэшце, магчыма, так і станецца. А што ў нас? У нас мае адбыцца чэмпіянат свету па хакеі ў 2014 годзе. Няма сумневу, што яго зробяць амаль узорным, дарогі і вуліцы „зачысцяць" ад лішніх машын, а лёдавыя палацы будуць перапоўнены, калі нават палова білетаў не прадасца. Вунь нават уезд замежнікаў у Беларусь напярэдадні гэтага чэмпіянату зробяць бязвізавым. Тут свая логіка, свае доказы правільнасці „сацыялістычнага курсу развіцця", як казалі некалі. Можна не сумнявацца, што карцінка будзе зроблена, як на маскоўскай алімпіядзе. Толькі тады за рысу горада вывезлі ўсіх бамжоў і прастытутак, а зараз улада напэўна плануе перасяліць у якія-небудзь „папраўчыя" лагеры ўсіх апазіцыянераў і іншадумцаў. І „за мурам" застануцца толькі чыстыя вуліцы і хакей...*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Крынская ятка

*Суботні вечар 12 красавіка 2012 года надоўга запішацца ў памяці жыхароў Крынак і наваколля. Адметны ён тым, што менавіта тады у каўказскую сінагогу — цяперашні дом культуры — завітаў сапраўдны тэатр. Маладыя акцёры, згуртаваныя ў беластоцкім, незалежным, прафесійным тэатры „Група Коінцыдэнцыя" (Grupa Coincidentia), займаюцца рознымі формамі тэатральнага мастацтва, у тым ліку і лялькамі. Пакуль яны не маюць сваёй уласнай сцэны, таму і пабачыць іх можна ў розных кутках свету. Маладыя акцёры паспелі ўжо прыцягнуць да сябе ўвагу самых лепшых стваральнікаў польскай драматургіі. Спецыяльна для іх паўстала п'еса „Krwawa jatka", напісаная вядомым польскім драматургам Міхалам Вальчакам. Яго творы ставяць многія тэатры краіны. Да супольнай працы над праектам — пастаноўкай фінансаванай фондам „Орындж" — „Група Коінцыдэнцыя" запрасіла сваіх сяброў: вядомага беластоцкага акцёра Паўла Аігнэра і Марыюша Ляскоўскага з Варшавы. Візуалізацыяй заняўся Кшыштаф Кізевіч, рэжысураў — Лукаш Кос, музыкай — Дамінік Стрыхарскі, касцюмамі — Іаанна Нямірская. Адмысловае мастацкае афармленне сцэны зрабіў Марыюш Ляскоўскі ў супрацоўніцтве з Малгажатай Тарасэвіч-Восік. Прэм'ера „Крывавай яткі" адбылася ў Беластоку яшчэ ў лістападзе 2011 года. Праект прадбачвае тэатральныя гастролі ў чатырох правінцыйных кутках Беласточчыны. У Крынкі папаў ён дзякуючы Ганне Сянкевіч, цяпер пражываючай у падкрынскіх Лапічах. Як сказала выканаўца адной з галоўных роляў у спектаклі Дагмара Сова, спадарыня Сянкевіч выдатна дапамагла ў арганізацыі крынскага спектакля — разносіла заяўкі, клеіла афішы, асабіста збірала публіку.*



*Плён намаганняў спадарыні Ганны быў відавочны — ахвотныя паглядзець спектакль ледзь змесціліся ў даволі прасторнай каўказскай сінагозе.*

*Спектакль „Крывавая ятка" прызначаны выключна дарослым. Ён распавядае пра пару маладых, лялечных акцёраў: цяжарную Басю (Дагмара Сова) і Мацея (Павел Хомчык), якія прафесійна згасаюць. Ім марыцца кінакар'ера, але каб пражыць, яны паказваюць дзецям у прадшколлях казку „Ясь і Малгося". Трагізму сітуацыі дадаюць пабочныя персанажы дэспатычнай, несумленнай выхавацелькі садка і хранічна незадаволенага сваёй прафесіяй клоўна, які кончыць жыццё самагубствам, вешаючыся на скакалцы. Героі, стомленыя недастаткам, бытавымі клопатамі, пакідаюць галоднае, амбіцыёзнае мастацтва у карысць камерцыйнай кар'еры і дабрабыту. Іх вучаць галоўным прынцыпам паспяховага шоўбізнесу — заядлага, вампірскага высмоктвання, спалучанага з падборкай дурнаватага іміджу.*

*Акцёры, зваблены ашуканскімі абяцанкамі сталічных прадзюсараў і варшаўскім дабрабытам на крэдыт, пападаюць у поўны адчай. Як тапелец брытвы, так і яны хапаюцца апошняга шансу — выезду ў падляшскую вёску, у кінастудыю Дракулы Насфэрату. Падпісаўшы працоўны кантракт уласнай крывёю, яны пагаджаюцца сыграць любую ролю. Здымачная пляцоўка студыі Насфэрату запоўнена трагікамічнымі сцэнкамі — метафарамі акружаючай нас свойскай рэчаіснасці. Паўсюль выпаўзае вульгарнасць і агрэсія. Акцёры, якія страцілі надзею, супольна з Насфэрату і яго асістэнтам — былым ксяндзом-палюбоўнікам іграюць, між іншым, душы пасажыраў, разбіўшагася самалёта, нястомную бараць-бу апошняга патрыёта, раскрываюць загадкі канфесіянала. Галоўныя героі ўрэшце атрымліваюць доўгачаканы грамадскі статус: у іх кантракты, сям'я і кватэра на могільніку вампіраў культуры.*

*Па-майстэрску пікантная ігра акцёраў плюс выразнае і простае сцэнічнае афармленне „Крывавай яткі" стварылі крынскай публіцы вечар сапраўднага падляшскага жахлівіка. Сачыўшы за рэакцыяй залы, можна сказаць, што мясцовая публіка выразна падзялілася на дзве часткі: паралізаваных патокам вострай вульгарнасці і больш вытрыманых, здольных заўважаць і смяяцца са сваіх памылак і недахопаў.*

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

**Вачыма еўрапейца**

## Забыты Дзень разнастайнасці



*Амаль дзесяць гадоў таму Генеральная асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый праклямавала Сусветны дзень культурнай разнастайнасці — 21 мая. У прадпасылцы мае ён служыць мабілізацыі ўрадаў, палітыкаў, культурных установ і шырока разуметых удзельнікаў грамадскага жыцця дзеля прамоцыі культурнай разнастайнасці і культурнай спадчыны, заадно матэрыяльнай, як і нематэрыяльнай. Як піша на сваіх сайтах Польскі камітэт па справах ЮНЕСКА, „дзень з'яўляецца таксама нагодай для адзначэння неабходнасці апрацоўкі структурных механізмаў лакальных культур, у тым ліку асабліва важнага элемента — мовы". Рэзалюцыя ААН адносіцца да прынцыпу „талерантнасці і павагі для культурнай разнастайнасці ды прамоцыі і захавання прыроды, у тым ліку права на развіццё". У праклямацыі моцна адзначаецца таксама „неабходнасць узмацнення патэнцыялу культуры як паспяховага сродка будавання дабрабыту, падтрымкі ўстойлівага развіцця і мірнага суіснавання ў маштабе зямнога шара".*

*Год да абвяшчэння Сусветнага дня культурнай разнастайнасці ААН усеагульную дэкларацыю аб гэтай разнастайнасці прынялі на генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы. Дазволю тут прывесці некалькі цытат з яе. У першым артыкуле гэтага дакумента можна прачытаць: „Разнастайнасць выяўляецца ў арыгінальнасці і шматлікасці тоеснасцей, якія характарызуюць групы і грамадствы, што ствараюць чалавечнасць. Культурная разнастайнасць як крыніца абмену, наватарства і крэатыўнасці для чалавечага роду неабходная так як і біялагічная разнастайнасць для прыроды". У чацвёртым артыкуле запісана: „Культурная разнастайнасць накладае абавязак паважаць правы чалавека і асноўныя свабоды, асабліва правы асоб прыналежных да меншасцей ды правы аўтахтоннага насельніцтва. Ніхто не можа спасылацца на культурную разнастайнасць з мэтай парушэння правоў чалавека, гарантаваных міжнародным законам, ані абмяжоўваць іх абсяг". У пункце, які вызначае планы дзейнасці звязаныя з уступленнем дэкларацыі ЮНЕСКА ў сілу, намаўляецца м.інш. да „захоўвання моўнай спадчыны чалавецтва, да падтрымкі форм выразу, творчасці ды распаўсюджвання як мага большага ліку моў", „захоўвання да моўнай разнастайнасці — пры ўшанаванні роднай мовы — на ўсіх узроўнях навучання, усюды, дзе гэта магчыма, а таксама заахвочвання да вывучання шматлікіх моў ад наймалодшых гадоў", „усведамлення, шляхам адукацыі, пазітыўнай каштоўнасці культурнай разнастайнасці ды ўдасканальвання з гэтай мэтай так школьных праграм, як і настаўнікаў".*

*Культурная разнастайнасць — як сцвярджае ААН — якая з'яўляецца асаблівай рысай чалавецтва і складае яго спадчыну, на разнастайным у нацыянальным і канфесійным планах Падляшшы найчасцей апісваецца ў турыстычных даведніках і рэкламных матэрыялах аб рэгіёне. Я адважуся сказаць, што надалей яна, як г.зв. станоўчая вартасць, на практыцы мае нязначны ўплыў на дзеянні перш за ўсё ўлад сталіцы ваяводства — Беластока. Пісаў я аб гэтым апошнім часам у „Ніве" хаця б на прыкладзе вынікаў нядаўняга конкурсу на рэалізацыю публічных задач у галіне культуры, мастацтва, ахоўы помнікаў і нацыянальнай спадчыны. Аб тым, што ў свеце адзначаецца Дзень культурнай разнастайнасці, у Беластоку, рэгіёне (маю тут на думцы нейкія мерапрыемствы, напр. культурныя ці інакш прамуючыя гэтую ідэю таксама ў школах) і ў мясцовых СМІ царыла маўчанне. Аб гэтым Дні і аб думках на іх конт я пачуў толькі па Радыё Рацыя.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Залатое руно

Лясная апынулася ў водавароце мясцовага канфесійнага змагання. Кацярына Радзівіл (1634-1694), сястра караля Яна III Сабескага і жонка ўласніка Белай-Падляшскай Міхала Казіміра Радзівіла, была заўважыла пра тамашняе насельніцтва, што ў тым наваколлі ёсць многа пажылых людзей, якія не ведаюць пра Бога, не спавядаюцца і нават не ведаюць, якой яны веры. І расійскія даведнікі пагаджаліся з гэтым: „жили въ большой бедности и такъ одичали, что многіе изъ нихъ даже не были крещены". Самога пераводу з праваслаўя ў унію, які адбыўся пасля 1596 года, было недастаткова. Дарэчы, самое ўніяцтва не разглядалася ў Рэчы Паспалітай надта сур'ёзна: уніяцкія іерархі не атрымалі абяцаных ім месц у Сенаце і не надта шанаваліся так даўнейшымі, як і новымі «аднаверцамі». Не звяртаў на іх увагі і біскуп Пражмоўскі, які згадваны раней дэкрэт завяршаў такою фразай: «Mamy nadzieję, że Bóg z niewyczerpanych skarbów swojego miłosierdzia wiernym błagającym Jego łaski, jeszcze więcej takowych udzielić raczy, a przez cuda i łaski Jego zaślepieni i błędni odszczepieńcy prawdą oświeceni i do jedności Kościoła przywiedzeni będą». Мясцовымі сіламі не ўдалося пабудаваць у Лясной мураванага касцёла — распачатая ў 1720 годзе будова была спынена тры гады пазней з нястачы сродкаў. На падмогу быў у 1727 годзе пакліканы ордэн паўлінаў з Чанстаховы. Ім мясцовыя вяльможы не шкадавалі сродкаў і ў 1750 годзе будаўнічыя працы былі завершаны; мураваныя будынкі прылягаючага кляштара былі завершаны векам пазней. Касцёл у 1989 годзе атрымаў званне Базілікі меншай. Побач, у месцы з'яўлення цудоўнага абраза, у 1718 годзе была ўзведзена мураваная Капліца з'яўлення з крынічкай усярэдзіне.

І з падпарадкаваннем Ляснянскага санктуарыя новым, праваслаўным гаспадарам, узнялася там новая хваля будаўніцтва. Апрача згаданых раней шасці царковак, у Лясной была ўзведзена сельскагаспадарчая школа, якая прадаўжала сваю дзейнасць наступныя сто гадоў, працавалі настаўніцкая семінарыя, млын... Сродкі на дзейнасць жаночага манастыра выдзяляліся з казны ды з ахвяраваннаў расійскіх вяльможаў. У 1905 годзе манастыр наведаў цар Мікалай II...

Так ляснянскія праваслаўныя манашкі, як і каталіцкія манахі, галоўнай мэтай ставілі місіянерскую дзейнасць — прыцягненне тамашняга, уніяцкага ўжо, насельніцтва ў сваё канфесійнае рэчышча. Дзесятая запаведзь забараняе пажадаць вала, асла, раба і рабыню бліжняга, але не забараняе жадаць ягоных авечак, а кожная ж авечка, якой бы яна беднай не была, носіць на сабе нейкае залатое руно.

Сама ляснянская ікона падобная ў агульнасці да больш слаўных Чанстахоўскай і Вастрабрамскай, у якіх усходнія вытокі, яны быццам з'яўляюцца сінтэзам усходняга і заходняга элементаў. А што ляснянскіх дзве, гэта, здаецца, не мае істотнага значэння, бо ж цудоўнымі лічацца не толькі арыгіналы, але і іх копіі, абы толькі быў адмысловы дэкрэт ці рытуал.

Ляснянская каталіцкая парафія, як паведамляе партал Сядлецкай дыяцэзіі, зараз налічвае пад тры тысячы душ. Той жа партал інфармуе таксама, што на тэрыторыі гэтай парафіі пражывае трынаццаць душ іншага чым каталіцкае веравызнання і што на той жа тэрыторыі знаходзіцца праваслаўная царква ў Носаве; крышку праваслаўя ўсё ж такі там асталося...

У пяці кіламетрах ад Лясной, у напрамку Белай-Падляшскай, ёсць вёска Вітулін, у якой таксама каталіцкая парафія. Касцёлам там колішняя ўніяцкая царква. У 1573 годзе была там узведзена праваслаўная царква, якая пасля Брэсцкай уніі стала ўніяцкай. У 1657 годзе была яна спалена войскамі трансільванскага князя Дзёрдзя Ракоцы. Новая царква была ўзведзена ў 1666 годзе, а чарговая, якая стаіць дагэтуль — у 1741 годзе. У 1875 годзе царскім загадам уніяты Каралеўства Польскага былі пераведзены ў праваслаўе. Жыхары Вітуліна супрацівіліся гэтаму, напалі на іх казакі, якія кватараваліся ў недалёкім Грудзе і шасцёра з іх пабілі да смерці; вось іх прозвішчы: Аляксандр Ляўчук, Дзмітры Кшыштафюк, Ігнат Філіпюк, Іаанна і Ян Мацеюкі ды Павел Дэнісюк. У 1905 годзе ў выніку царскага талеранцыйнага ўказу не ўсе тамашнія вернікі перайшлі ў каталіцтва і царква далей аставалася праваслаўнай, аж да 1919 года, калі была перанята католікамі.



Касцёл у Вітуліне

Зараз Вітулінская парафія ахоплівае толькі Вітулін, вёску і хутары — разам шэсцьсот дзесяць душ. У Вітуліне працуюць дзве крамы, у адну я зайшоў, тавару там як у добрай беластоцкай спажывецкай краме. Пустых хат амаль няма. Пасярэдзіне вёскі помнік Тадэвушу Касцюшку, пастаўлены ў 1930 годзе з надпісам „Wodzowi Witulin". Каля касцёла траіх мужчын прыбіралі ягонае наваколле. Пабачыўшы маё зацікаўленне храмам, адзін з іх узяў ключ і адкрыў дзверы ўсярэдзіну, моўчкі запрашаючы мяне заглянуць туды...

З Вітуліна падаўся я ў напрамку Белай-Падляшскай. Хацелася мне заглянуць яшчэ ў Груд, дзе таксама стаіць былая царква, якая зараз касцёлам, але пабойваўся, ці мне хопіць на гэта часу. Справа, як гэта часам бывае, вырашылася сама, бо ў Груд не было паказальніка і такім чынам зайшоў я ў Ціцібар, а там чарговы сакральны аб'ект, намолены паводле двух абрадаў...

У Ціцібары зараз няма самастойнай парафіі, мясцовасць падпарадкавана Белянскай парафіі блаславёнага Ганарата Казмінскага. Мясцовая ўніяцкая царкоўка св. Пракседы была пабудавана ў 1655 годзе, у 1875-1919 гг. была праваслаўнай, пазней — каталіцкай. У час Другой сусветнай вайны быў там склад боепрыпасаў; тады была знесена званіца і агароджа. Акурат цяпер тая агароджа адбудоўваецца. Два работнікі, што займаліся гэтай працай, ветліва дазволілі мне заглянуць усярэдзіну...



Помнік Касцюшку ў Вітуліне

З Ціцібара заехаў я на мікробусе ў Белую-Падляшскую, злезшы каля могілак, што прылягаюць да гарадскога цэнтра. Адтуль паказаліся пазалочаныя купалы белянскай царквы... Першая царква ў Белай-Падляшскай, узведзеная ў 1582 годзе, згарэла шэсцьдзесят чатыры гады пазней. Потым стаялі там уніяцкія цэрквы, апошняя з іх, пабудаваная ў 1826 годзе паводле праекта архітэктара Стэфана Казмінскага, бацькі згаданага Ганарата, патрона адной з белянскіх каталіцкіх парафій і суседняга з царквой новага касцёла, стала ў 1875 годзе праваслаўнай. У 1928 годзе была яна разбудавана, а дзесяць гадоў пазней — раскідана. У 1956 годзе на яе месца прывезлі драўляную царкву з Холмшчыны, якую ў 1994 годзе перанеслі ў Дабратычы каля Тарэспаля пасля ўзвядзення ў 1989 годзе новай мураванай царквы...

Недалёка белянскага аўтобуснага вакзала стаіць Прачысцэнскі касцёл. Раней стаяла там царква, узведзеная ў XVI стагоддзі, на месцы якой у 1690 годзе за сродкі згаданай Кацярыны Радзівіл з Сабескіх была пабудавана драўляная базыльянская царква святой Варвары для памяшчэння ў ёй рэліквій Іасафата Кунцэвіча; у 1790 годзе быў там пабудаваны мураваны касцёл...

Іасафат Кунцэвіч, уніяцкі біскуп Полацка, энергічны распаўсюджвальнік уніі, быў забіты віцеблянамі ў 1623 годзе, а ягонае цела было ўкінута ў Дзвіну, пазней вылаўлена і пахавана ў Сафійскім полацкім саборы. У 1642 годзе Кунцэвіч быў аб'яўлены блаславёным, а ў 1867 годзе — святым. Ягоныя астанкі каля 1655 года былі перавезены ў Супрасль, адкуль у 1667 годзе вярнуліся ў Полацк, аднак у 1706 годзе былі забраны ў замкавую капліцу Радзівілаў у Белай-Падляшскай. Пасля абвяшчэння яго святым царскія ўлады запатрабавалі перанесці ягоныя рэліквіі ў склеп базыльянскага кляштара і там замураваць. У 1918 годзе, калі Белую-Падляшскую занялі аўстрыйцы, склеп быў раскрыты, а рэліквіі перавезены ў Вену, адкуль у 1949 годзе трапілі ў рымскую базіліку св. Пятра, дзе пакояцца дагэтуль...

А Прачысцэнскі касцёл быў у 1875 годзе перададзены праваслаўным, якія перабудавалі яго на царкоўны лад. У 1919 годзе атрымалі яго католікі і перабудавалі на касцельны лад. У 1939-1943 гадах немцы зрабілі там склад збожжа...

І яшчэ слоў пару пра белянскі аўтобусны вакзал. Ён вельмі падобны да ранейшага беластоцкага: аддалены ён ад чыгуначнага вакзала, стаянкі там цесныя і тупіковыя. Таўкучка там, праўда, меншая, чым была калісь у Беластоку, бо і менш народу. Хаця мікрааўтобусы, якія там галоўным сродкам транспарту, запаўняюцца даволі прыстойна, галоўным чынам моладдзю белянскіх школ, якая даязджае з навакольных вёсак. Мікрааўтобусы належаць мясцовай фірме Garden Service, якая падмяніла непрысутны ўжо ў Белай-Падляшскай Пэкаэс. Калі ў Лясной пабачыў я расклад язды аўтобусаў пад лагатыпам новай фірмы, здзівіўся, што людзей хоча вазіць прадпрыемства, якое, паводле назвы, павінна вазіць бульбу або капусту. Можа яно так і ёсць, а транспарт пасажыраў гэта толькі działalność uboczna.

## Роўныя і раўнейшыя

Ад 1 красавіка г.г. дзяржаўная чыгунка ўвяла новыя цэны білетаў на праезд. У асноўным здзелка зводзілася да адмянення дагэтуль абавязваючых ільгот. Для прыкладу, на лініі Чаромха — Беласток падарожныя карысталіся прамоцыяй „Спалучэнні ў добрай цане”, пры чым прадаваліся г.зв. зонавыя білеты. Праезд за такім білетам каштаваў 9,50 зл., а школьны пры 37-працэнтнай ільгоце каштаваў 5,98 зл. Для параўнання, білет на аўтобус па гэтым маршруце каштаваў 14 зл. Пры такіх прамоцыях паток пасажыраў намнога павялічыўся. З пачаткам красавіка адмянілі продаж зонавых білетаў у Чаромху. Зараз за праезд трэба заплаціць 16 зл., а школьніку 10,08 зл. Зонавыя білеты надалей прадаюцца да такіх станцый як Лапы, Монькі, Саколка і Бельск-Падляшскі. Чым правінаваціліся чарамшане? Варта адзначыць, што многія чыгуначнікі даязджаюць на працу пазменна ў Беласток і няма ім чым назад вяртацца дамоў. Вымушаны яны затым карыстацца прыватнымі аўтобусамі і плаціць нармальныя білеты за праезд, хоць маюць выкупленыя ільготы на цэлы год у сваім прадпрыемстве. Чым кіраваліся адказныя чыноўнікі Маршалкоўскай управы, адмяняючы продаж зонавых білетаў у Чаромху? Няўжо Маршалкоўская ўправа з Прадпрыемствам „Інтэрсіты” і Рэгіянальнымі перавозамі карыстаюцца прынцыпам падзелу на „роўных” і „раўнейшых”? У мінулым, „пры камуне”, такога не прыкмячалася. Чаромха лічылася „вочкам у галаве”, не толькі ў Беластоку, але і ў Цэнтральнай дырэкцыі ПКП. Вось які прагрэс спаткаў чаромхаўскую грамадскасць!

## Варта рабіць добра

У 22 нумары „Нівы” ад 27 мая 2012 г. друкаваўся мой допіс „Сізіфавая праца”. Калі я пасылаў матэрыял у рэдакцыю, дык не спадзяваўся, што Павятовае праўленне публічных дарог у Гайнаўцы возьмецца папраўляць халтурную работу на дарогах у Чаромсе і наваколлі.

У палове траўня ямкі ў асфальтным палатне ад чыгуначнага пераезда ў паравознае дэпо былі запоўнены бетонам. Ды не толькі на гэтай асфальтоўцы. Падобнае прыкмеціў я і на вуліцы ў Кузаве. Ад вясны мінула ўсяго два месяцы як рамантавалася дарога. І што атрымалася?...

У народзе кажуць: „Што хутка робіцца, дык сляпое родзіцца”. Ці гэтым разам „палатаная” дарога даўжэй паслужыць, цяжка сказаць. Каб ано зноў гэтая работа не аказалася сізіфавай працай. Напамінаецца мне даўнейшы лозунг, які віднеў непадалёк перонаў перад адміністрацыйным баракам чыгуначнай станцыі: „Тое што варта рабіць, варта рабіць добра”. Гэтыя словы пакідаю без каментарыя.

**Уладзімір СІДАРУК**




Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# На Падляшшы гэты бізнес не круціцца

**Спадар Андрэй у адной руцэ трымае цыгарэту, а другой гартае карткі ў тоўстай папцы-рэгістратары. Тут трымае ўсе пісьмы і важныя дакументы, якія тычацца ветрагенератараў.**

— Мы не маем нічога супраць ветракоў, але не хочам іх непадалёк хаты і сельскіх пабудоў, — кажа.

Справа ветрагенератараў у вёсцы Асмалоўшчына, што ў гміне Дуброва-Беластоцкая, цягнецца ўжо амаль год.

— Мы не мелі магчымасці раней чагосьці зрабіць, галоўным чынам таму, што не ведалі аб планах бурмістра, — тлумачыць спадар Квасоўскі. — Напэўна аб гэтым гаварылі на пасяджэннях управы гміны, але солтыс не мае абавязку ўдзельнічаць у кожным пасяджэнні. Наш напэўна не ўдзельнічаў.

Бурмістр Дуброўскай гміны Тадэвуш Цішкоўскі прызнае, што не кожны мог атрымаць паведамленне аб планах пабудовы ветрагенератараў. Гміна вырашыла паведамляць толькі асобы, якія будуць жыць найбліжэй ветракоў.

— Не магу сказаць хто атрымаў пісьмо, аднак я ўпэўнены ў гэтым, што асобы, якія пратэстуюць, былі паведамлены.

Калі жыхары Асмалоўшчыны даведаліся аб прынятых планах пабудовы ветрагенератараў, вырашылі звярнуцца ў Касацыйную калегію. Аднак згэтуль атрымалі пісьмо, у якім напісана, што хаця пастанова бурмістра гміны Дуброва-Беластоцкая была выдадзена з парушэннем закону, мінула ўжо дванаццаць месяцаў і рашэнне ўступіла ў сілу.

— Нам сказалі, што бурмістр павінен адмяніць рашэнне, але ён не абавязаны.

Людзі таксама не давяраюць гарантыям адносна лічбы ветрагенератараў, якія маюць паўстаць на тэрыторыі гміны.


Ветрагенератар у Бярозаве

— Гміна дамовілася з інвестарам на чатырнаццаць ветракоў. Аднак цяпер бурмістр усіх пераконвае, што будуць толькі тры.

Асмалоўшчане, якія не пагаджаюцца, каб у іх вёсцы стаяў вятрак, сустрэліся з жыхарамі вёскі Елянева, што ў Сувальскім павеце. Тут таксама пратэставалі супраць ветрагенератараў і, вельмі падобна як і ў Асмалоўшчыне, аб планах пабудовы даведаліся настолькі позна, што не ўдалося ім адмяніць рашэння бурмістра.

— Людзі з Елянева сказалі, што ад часу, калі навокал паставілі ветракі, стала горш. Яны баяцца, што цяпер Сувальшчына менш прывабная, што гэта перашкаджае мясцоваму агратурызму.

Недалёка Дубровы знаходзіцца апора птушак — абшар спецыяльнай аховы ў рамках праекта „Натура-2000”.

— У Нямеччыне ніхто не мог бы паставіць ветрака непадалёк такога месца бліжэй чым 7 кіламетраў. У нас мае ён стаяць ад паўтара да двух кіламетраў ад месца, дзе водзяцца птушкі. Таму мы паслалі пісьмо ў Рэгіянальную дырэкцыю аховы асяроддзя ў Беластоку.

Пакуль што асмалаўшчане бароняцца перад ветраком, які, паводле планаў, меў быць узведзены ў красавіку. Справа месца і адміністрацыйных рашэнняў, якія тычацца гэтай пабудовы, трапілі ў Акруговы адміністрацыйны суд. Адам Барысевіч, старшыня фірмы-інвестара сцвярджае, што прычынай спазнення з’яўляюцца тэхнічныя праблемы.

— Пратэсты не паўплываюць на тэрмін будовы, — сказаў Барысевіч.

У суседнім Бярозаве вятрак стаіць ад сакавіка. Сямідзесяцігадовы Станіслаў застаўся на вёсцы толькі з жонкай. Гаспадарыць на невялікім палетку зямлі, з якога сёння цяжка чагосьці дабіцца.

— Бярозава гэта мёртвая вёска! Усе павыязджалі. Неўзабаве тыя, якія засталіся, памруць і вятрак нікому не будзе перашкаджаць.

Пры загуменні спадара Станіслава стаіць вятрак высокі на шэсцьдзесят метраў, найменшы з магчымых.

— Кожны хацеў бы, каб на яго полі стаяў, каб панастаўлялі яшчэ больш ветракоў! Нам не будзе аплачваца ні араць, ні сеяць. Хай ставяць, палоска доўгая!

Неафіцыйна вядома, што гаспадар, на полі якога стане вятрак, атрымае 20 тысячы злотых у год.

Спадар Квасоўскі скардзіцца, што не ўсе разумеюць пагрозу з боку ветрагенератара побач будынкаў.

— Людзі думаюць, што зайздросцім суседзям грошай, якія будуць яны атрымліваць за арэнду зямлі пад вятрак. Мне здаецца, што бурмістру і інвестару ідзе пра тое, каб мы тут, у вёсцы, сварыліся і ім не перашкаджалі.

На Сакольшчыне апрача Бярозава ветрагенератар стаіць і ў Паўднёвым-Востраве. У планах яшчэ трынаццаць ветракоў у Шудзялаўскай і Сакольскай гмінах. Жыхары Завістоўшчыны ўжо пачалі пратэставаць.


Удзельнікі майстар-класа на крынскім кіркуце

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Урок талерантнасці

Крынкі сталі адным з прыпынкаў у аднадзённым падарожжы талерантнасці, ладжаным выхаваўчымі кадрамі беластоцкай бурсы школьнай. Менавіта тут 17 красавіка, у рамках вялікага праекта „Школа талерантнасці” праводзілася частка фатаграфічных майстар-класаў. Пад вокам інструктараў моладзь сярэдніх навучальных устаноў Беластока здымала аб’екты, звязаныя з гісторыяй і традыцыяй шматнацыянальных Крынак. Маладыя госці звярнулі ўвагу на драўляную бібліятэку — даўнюю царкоўную, а потым беларускую школу, пра якую распавяла ім старшыня крынскага таварыства „Тэрра Інкогніта”.

— Я тут перш за ўсё таму, што цікаўлюся фатаграфіяй, — кажа Вераніка, ліцэістка з Мазур. — Часта ўдзельнічаю ў фатаграфічных конкурсах і выстаўках. Я хацела пазнаёміцца з культурай гэтага, яшчэ мне невядомага, кутка Польшчы. Мабыць, нідзе больш такога не пабачу. Я ўражана тым, што столькі тут захавалася даўніны. Яшчэ ніколі і нідзе не сустрэла такой колькасці драўляных будынкаў. Я не чула, каб дзе-небудзь у свеце існавала такая культурная разнастайнасць у адным месцы. Тут царква, касцёл, мячэць і сінагога з кіркутам існуюць побач з сабою. А ці можаце мне растлумачыць, скуль на гэтай зямлі ўзяліся беларусы?

— І я захоплены мясцовай архітэктурай, — уключаецца ў размову Каміль Лупінскі з вёскі Лупянка-Старая, што пад Лапамі. — Маю ўвагу прыцягнула, між іншым, нетыповая гаспадарчая забудова. Першы раз у сваім жыцці я пабачыў склепы-зямлянкі. У нашых вёсках такога не сустрэнеш. Першы раз таксама непасрэдна дакранаюся да царквы ці сінагогі. Я ніколі ў сваім жыцці не сутыкнуўся з людзьмі іншай культуры ці веравызнання, ведаў толькі касцёлы і тых, якія туды ходзяць.

Госці прызаўважылі таксама і цёмныя бакі крынскай, шматнацыянальнай спадчыны. Балюча кранаў душу занядбаны, зарослы кіркут, пры ўваходзе на які страшыла разбураная хуліганамі каменная агароджа. Кіркуцкія камяні паслужылі для абазначэння месца пад грыль. Мясцовыя бяседнікі пакінулі па сабе больш слядоў, у тым ліку пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі.

Муры хасідскай сінагогі доўга ўжо не пастаяць, а і турыстычнага ўказальніка да таго месца ўжо няма. Госці засумавалі, калі ўбачылі царкоўны пляц са свядома падрэзанымі, старымі дрэвамі, напамінаючымі Чарнобыль зараз пасля аварыі.

Як сказала апякунка групы Магдалена Кухарэвіч, „гэта немагчыма, каб у дваццаць першым стагоддзі былі яшчэ так занядбаныя месцы культу як крынскі кіркут. Калі так вельмі стараемся пра як найлепшы імідж нашых святынь, трацім агромныя грошы на падсветку многіх храмаў, ці пабудову штораз то прыгажэйшых агароджаў, мы не павінны дазволіць, каб нехрысціянскія святыні знаходзіліся ў такім занядбанні толькі таму, што канкрэтная дыяспара закончыла сваю экзістэнцыю”.

Напэўна гэта не апошні візіт жыхароў беластоцкай школьнай бурсы ў Крынках. „Школа талерантнасці” будзе працягваць сваю дзейнасць. Магчыма, у бліжэйшыя планы ўпішацца таксама парадкаванне яўрэйскіх могілак.

У гэты раз удзельнікам „Школы талерантнасці” трэба было яшчэ наведаць царкву ў Востраве, касцёл у Шудзялаве, крушынянскую і багоніцкую мячэці, паглядзець усе галоўныя сакральныя будоўлі Саколкі і дабрацца ў падвасількаўскую Святую Ваду.

# Люстрацыйны манюка? (10)

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

У чарговым акце працэсу за люстрацыйную ману дэпутата Сейма ад СЛД Яўгена Чыквіна перад беластоцкім Акруговым судом чарговы раз давалі паказанні былыя функцыянеры Службы бяспекі ПНР. На гэты раз у працэсе вернутым у той жа суд Апеляцыйным судом для паноўленага разгляду па заяўцы Інстытута нацыянальнай памяці, сведкаў дапытвалі два чарговыя дні (21-22 мая). Аказалася, што дваіх іх: Збігнеў З. — загадчык IV аддзела СБ (высочванне касцёлаў і канфесійных суб'ектаў) і Аляксандр К. — у 1980-х гадах, калі дэпутат Чыквін меў быццам быць сакрэтным і свядомым супрацоўнікам (TW) СБ як старшыня мясцовага аддзялення Хрысціянскага грамадскага згуртавання, хаваліся ў сваёй дзейнасці таксама пад прозвішчамі Закшэўскі і Кшышэўскі. Гэтая інфармацыя аказалася неспадзяванай нават пракурору ІНП.

Суд гэтым разам паклікаў у сведкі чатырох былых функцыянераў СБ. Адным з іх быў афіцэр, наглядаючы спадара Чыквіна, Аляксандр К. Так як і іншым сведкам, старшыня судзейскага складу Славамір Валосік і яму зачытаў абшырныя вытрымкі паказанняў з ранейшага працэсу, допытаў перад пракурорам ІНП і Заступнікам публічнага інтарэсу, які заключыў, так як і суд першай інстанцыі, што дэпутат падаў праўдзівую люстрацыйную заяву. Аляксандр К. — так як і іншыя сведкі — даваў адказы супадаючыя з тымі, якія даваў у ходзе ранейшага працэсу, а якія „Ніва" пастаянна апісвала. Паявіліся гэтым разам таксама новыя матывы, прынамсі для назіральнікаў працэсу. Пракурор Агнешка Русіловіч дапытвалася, ці Аляксандр К. сустракаўся з Яўгенам Чыквіным у кватэры, якая была кантактным памяшканнем СБ і ці меў у сваім распараджэнні ўласнае кантактнае памяшканне. Сведка, у званні капітана ў канцы 1980-х гадоў, спярша пярэчыў:

— У маім распараджэнні не было кантактных памяшканняў. Гэта не быў мой ранг.

Раней пракурор пытала:

— А ці вы ведаеце, што гэта кантактнае памяшканне?

Аляксандр К. (зараз выхавацель у беластоцкім папраўчым доме):

— У гэты момант, пасля дваццаці пяці гадоў, дакладна акрэсліць дэфініцыю кантактнага памяшкання я не ўмею.

Пракурор Русіловіч звярнулася тады да суддзі:

— Падаю доказную заяўку, што сведка гаворыць няпраўду.

І паказала дакументы кантактных памяшканняў, прыхаваных пад крыптонімамі „Азалія" і „Канвалія", якія былі на г.зв. аператыўным стане Аляксандра К., якія СБ наймала ад прыватных асоб. Сведка азарыла:

— Убачыўшы гэтыя дакументы я прыпомніў, што меў на стане такія памяшканні, якімі спарадычна карыстаўся.

Падобныя спробы Аляксандра К. ухіляцца ад адказаў закончыліся пасля пагрозай суддзі пра магчымасць пакарання парадкавым штрафам. Пры нагодзе аказалася, што сведка верагодна сведчыў няпраўду ў дакументах, сцвярджаючы, што браў грошы за наём кантактнага памяшкання, хаця — як гаварыў цяпер — ніколі іх у руках не меў.

Аляксандр К., згадваючы пра сваё аператыўнае прозвішча (Мар'ян Кшышэўскі), тлумачыў, дзеля чаго яго атрымаў:

— Калі стаў я на працу, скіравалі мяне да работы з каталіцкім духавенствам. Нехта з майго начальства заключыў, што маё прозвішча, з канчаткам -ук, гэта прозвішча тыпова праваслаўнае і можа ўскладняць кантакты з каталіцкімі ксяндзамі. Гэтым прозвішчам карыстаўся я перад тымі ксяндзамі, але не перад спадаром Чыквіным.

Паколькі ў актах ІНП датычных дэпутата няма г.зв. папкі працы (СБ па завядзёнцы закладала сваім супрацоўнікам дзве папкі: працы і персанальную), ні падпісанай ім заявы аб супрацоўніцтве, суд дапытваў Аляксандра К.:

— Ці быў нейкі TW без папкі?

— Не ведаю. У маім аддзеле праверкі выявілі прынамсі адзін такі выпадак. Спадар Чыквін мог мець папку працы. Я такой не закладаў. Рашуча сцвярджаю, што са спадаром Чыквіным меў я службовыя кантакты. Загадчык даверыў мне весці ягоную дакументацыю, якую я ўнаследаваў, і разлічваць, што можа ўдасца нам да сябе наблізіцца.

Аляксандр К. ухіляўся ад адназначнага адказу на пытанне спадарыні пракурор, ці Яўген Чыквін быў TW. Суд прыгразіў:

— Не будзе так, што будзеце ўхіляцца ад адказу. Ідзе пра суб'ектыўны адказ.

Пасля хвіліны маўчання сведка сцвердзіў:

— З фармальнага пункту гледжання, з дакументаў, можна было б сказаць, што спадар Чыквін быў TW. У ходзе нашых сустрэч з ім нашы адносіны абмяжоўваліся да службовага кантакту. У ходзе розных спроб інтэграцыі даваў ухілістыя адказы або мяняў тэму, што мяне, дарэчы, нервавала, бо не мог атрымаць таго, чаго хацеў.

Дадаў таксама, спасылаючыся на ўжываную службамі бяспекі тактыку на выпадак пагрозы „правалу" супрацоўніка:

— Не было абаронча канцэпцыі спадара Чыквіна.

Пракурор Русіловіч:

— А ці быў ён асабовай крыніцай інфармацыі?

Аляксандр К.:

— Паводле майго адчування быў зарэгістраваны як асабовая крыніца інфармацыі, але падаваў агульныя інфармацыі. Я хацеў, каб быў TW, бо мог бы мець сэнсоўныя інфармацыі, але тады не меў бы я яго на стане.

Аглядаючы папку з далучанымі да справы дакументамі, заявіў:

— Гэта не падаецца персанальнай папкай.

Пасля адзначыў:

— Не магу сказаць, ці папка працы спадара Чыквіна наогул была. У майго папярэдніка быў вялікі беспарадак.

Сведка, дапытваны судом, ці згаджаецца з ранейшымі паказаннямі, складзенымі гадамі раней перад заступнікам публічнага інтарэсу, адказаў, м.інш.:

— Не ўмею адказаць, пра што мяне пытаў. Жыву сённяшнім днём.

Іншы сведка, зараз 64-гадовы пенсіянер Багдан Ч., у 1980-х гадах высокі беластоцкі чыноўнік аддзела дакументацыі і архіваў СБ, а па трансфармацыі 1989 г. працаўнік Управы аховы дзяржавы, пачаў свае паказанні ад агульнай думкі, датычнай справы дэпутата Чыквіна:

— Тут ужо не ідзе пра тое, ці злавіць, ці толькі ганіць трусіка.

Часам паказваў знакамітую памяць:

— У год здабывалася ад 1 200 да паўтары тысячы супрацоўнікаў.

Прыгадаў адзін з лістоў начальства МУС з верасня 1989 года наконт абыходжання з пакінутымі СБ дакументамі. Прывёў нават дакладную шматзначную яго сігнатуру. Зараз пасля адзначыў:

— Многіх дэталяў маю права не помніць, бо мінула чвэрць стагоддзя. (...) Гэтаксама пратаколы знішчання папак трэба было адсылаць у цэнтр. Знішчаліся матэрыялы не толькі датычныя ксяндзоў, але і іншых асоб са сферы зацікаўлення IV дэпартамента. (...) Не ведаю, ці ў IV аддзеле ў Беластоку дакументы знішчаліся. Ён быў герметычна закрыты. (...) Акты, якія паводле мяне маглі мець гістарычную вартасць, з аб'ектавых папак датычных духавенства і арганізацый, пакідаў.

Багдан Ч. прызнаўся, што знішчанне актаў СБ доўжылася некалькі месяцаў да яе роспуску.

— Часам ад вядучых справы ў наш аддзел траплялі дакументы моцна пахудзелыя.

Пасля паказанняў Багдана Ч. усё асталіся сумненні ці быў мікрафільм з дакументаў датычных Яўгена Чыквіна і што, марчыма, магло з ім стацца.

— Поўнасцю я не перакананы, што быў мікрафільм. Здымала на плёнку Луцыя С. Рабіла гэта раз на чатыры гады. Калі я быў загадчыкам аддзела, яна не здымала. У прынцыпе, усе матэрыялы павінны быць зняты на плёнку. На практыцы мікрафільмавалася агентура. Можа акты спадара Чыквіна трапілі ў Варшаву і там іх нехта мікрафільмаваў і там іх у 1995 знішчана [кіраваў урадам тады Юзаф Алексы — М. Х.]

Гаворачы аб працы свайго аддзела, расказваў:

— Бывала, што ў наш аддзел давалі толькі персанальную папку, без папкі працы. Не былі гэта адзінкавыя сітуацыі. Асоба зарэгістраваная ў якасці TW павінна, а нават мусіла мець папку працы.

Багдан Ч. у час паказанняў паводзіў сябе напышліва ў адносінах да суда і пракурора. Скрупулёзнаму і наогул спакойнаму суддзі Валосіку ў адзін момант не стрымалі нервы:

— Пасля чарговых выхадак у адрас суда і спадарыні пракурор суд пакарае вас парадкавым штрафам. Стаіце перад судом Рэчы Паспалітай, а не Народнай Польшчы.

Багдан Ч. прашаптаў, адварочваючы крыху галаву:

— Яшчэ.

*(Працяг будзе)*

## Вандалы і палітыкі

Падляшскае ваяводства славіцца шматкультурнасцю, аб чым мясцовыя палітыкі гавораць пры любой нагодзе. Сапраўды, пражываюць у нас людзі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Жывуць яны паміж сабою згодна, адна адных запрашаюць у госці.

Аднак некаму хочацца парушыць згоднае суіснаванне, засеяць варажнечу. У мінулым годзе злачынцы замалявалі літоўскія ўказальнікі ў Пунскай гміне, апаганілі помнік загінуўшым яўрэям у Ядвабным, знішчылі самшытавую зорку Давіда на месцы былога яўрэйскага могільніка ў Беластоку. Было ўзбуджана следства, але да гэтай пары віноўнікі застаюцца невядомымі.

Цяпер таксама невядомыя злачынцы замалявалі беларускія ўказальнікі ў Арлянскай гміне. Палітыкі і самаўрадаўцы выказалі абурэнне, паліцыя заявіла, што вядзе следства. І ўсё... Відаць, віноўнікі таксама не будуць выяўлены. Узнікае пытанне: ці праваахоўныя органы такія бездапаможныя, ці не хочацца ім шукаць?

На маю думку, частка палітычных эліт пацішу падтрымлівае крайнія групоўкі, якія дзейнічаюць пад лозунгам „Польшча для палякаў", бо напэўна з іх выводзяцца вандалы, якія нішчаць літоўскія і беларускія ўказальнікі, яўрэйскія помнікі і сінагогі. Гэта ім перашкаджаюць нацыянальныя і рэлігійныя меншасці і гэта яны робяць усё, каб мы не жылі спакойна, каб трывожыліся за сваю будучыню.

## Разбітая дарога

Гмінная дарога з вёскі Бялкі Нараўскай гміны ў вёскі Гозьна і Патока Міхалоўскай гміны на 300-метровым адрэзку, ад гравійкі, так разбітая машынамі, якія вывозяць драўніну з лесу, што нават пасля невялікага дажджу становіцца непраезнай. Пра дарогу не дбае Надлясніцтва Жэдня, машыны якой вывозяць лес. Аб рамонце не клапоціцца таксама і мясцовая салэцкая рада. Самаўрад Нараўскай гміны пэўна не ведае аб гэтай дарозе, бо яна вядзе праз лес на тэрыторыю суседняй гміны. Трэба, каб члены салэцкіх рад зацікавілі справай гмінныя ўлады, а дарога напэўна будзе папраўлена.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Варшаўскія допісы

У нашай газеты нямала творчых сяброў. Яны сваімі паведамленнямі, занатоўкамі, допісамі ўзбагачаюць змест „Нівы". Газета ўсіх іх шануе, знаходзіць на сваіх старонках месца для публікацыі. Як можна заўважыць, найбольш ніўскіх карэспандэнтаў жыве на Беласточчыне і ў сваіх допісах кранаюць яны лакальныя справы.

Уцешыўся я, што апошнім часам з'явіліся на старонках „Нівы" допісы майго земляка Георгія Зюзі з Варшавы. Дзякуючы ім можам даведацца, што цікавага ў беларускіх справах дзеецца ў Варшаве. З вялікай прыемнасцю прачытаў я інфармацыю пра мерапрыемствы ў Культурным цэнтры Беларусі, прымеркаванае да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Хацелася б, каб варшаўскія допісы Георгія Зюзі зачасцілі на старонках нашага тыднёвіка.

**Віктар БУРА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Новае сяброўства

Фота Ганны Кандрацюк




Фота Ганны Кандрацюк



У травеньскі дажджлівы дзень у Пачатковую школу ў Чаромсе завітала „Зорка". Да гэтай пары дзеткі ведалі яе толькі з газеты „Ніва". Адзін Янка напомніў, што ўдзельнічаў у сустрэчы ў мінулым годзе. Дзеткі расселіся ў крэслах. На пачатку праверка дамашняй работы, а пасля пачалося знаёмства з навейшым нумарам „Зоркі". Вучні атрымалі ў якасці падарунка „Ніву" з каляровымі старонкамі.

Маўклівых спачатку дзетак разварушыла гульня. Найбольш смелыя дзяўчынкі, Уля і Малгося, выйшлі на сярэдзіну залы і праспявалі беларускую песеньку. За гэта атрымалі ўзнагароду — майкі з лагатыпам „Зоркі". Сур'ёзнай справай быў выбар колеру. Чырвоны і ружовы найлепш падыходзіў дзяўчатам. Уля — маленькая дзяўчынка, таму ўзяла найменшую майку. Тым не менш смела магла б яе насіць як сукенку, таму што сягала яна да кален. „Яшчэ вырасту!" — рашуча сказала Уля.

Маек сяброўкам пазайздросцілі хлопцы. Янка з Томкам хутка падняліся з крэсел і пачалі спяваць „Ой, ты Галю, Галю маладая". Янка ўжо раней згадваў, што ў іх хаце слухаюць Радыё Рацыя. Не цяжка здагадацца, якая перадача з'яўляецца ім любімай. На шчасце ўсім удалося атрымаць майкі ў любімым колеры.

Здавалася, што вялікай гераіняй чаромхаўскіх вучняў з'яўляецца мышка Пік-Пік. Малюнкі з яе выявай займалі большую частку каляровай насценгазеты. Самая мышка Пік-Пік нарадзілася на старонках „Зоркі". Усё гэта дзякуючы сяброўству аўтаркі кніжкі Людмілы Рублеўскай і Міры Лукшы, журналісткі „Нівы", якая ў той час рэдагавала дзіцячую старонку .

Дзеці здаваліся быць задаволеныя не менш, чым тварык хлопчыка на каляровых майках.

— Напэўна часцей будзем ладзіць такія сустрэчы, — дадала настаўніца Альжбета Раманчук.

Было відаць што дзеці хочуць пасябраваць з „Зоркай".

**Уля ШУБЗДА**

## Вершы Віктара Шведа

### Заўзяты экскурсант

— Экскурсант з цябе заўзяты,
Адазваўся Федзя —
Штогод выязджаеш з хаты,
Дзе ж цяпер паедзеш?

Дзе ж ты прападаў узімку,
У якім быў краю?
— Не праяўляў яшчэ я здымкаў,
Дык не памятаю.

### Дасканалы зрок

Жонка пазірае ў люстра
І ацэнку робіць з густам:
— Прыбыло маршчын на твары,
Відавочная ўжо старасць.

Я пабрыдшала, вядома...
Можа бачыш па-другому,
Мужанёк ты мой удалы?
— Зрок ты маеш дасканалы.

# Як белавежскія зубры сустрэліся ў Малдове

Чаму нам трэба ведаць сваю мову, культуру, легенды? Вось, кожны з нас неўзабаве паедзе ў свет: хто паедзе вучыцца, хто працаваць, многія пададуцца на адпачынак у экзатычныя краіны. Там часта пытаюць пра твой край, пра песні, пра яду і звяроў.

Я, калі хачу расказаць пра сваю радзіму, называю зуброў.

— Гэта ў Белавежскай пушчы? — удакладняюць тыя, што спыталі.

Наш старажытны лес ведаюць у шырокім свеце. Найперш з-за зуброў, якія ўражваюць сілай і адвагай. Зуброў ушаноўваюць са старажытных часоў. Іх выявы бачны на збанах, знойдзеных у курганах. Зуброў сустракаем у гербах гарадоў і дзяржаў. Выяву зубра бачым у гербах падляшскіх гарадоў: Драгічына, Кнышына, Тыкоціна, Саколкі, Замбрава. Зубр знаходзіцца таксама ў гербе мястэчка Свіслач, што ў Рэспубліцы Беларусь. Выява караля пушчы аздабляе гербы Гайнаўскага павета, Белавежскай і Нараўчанскай гмін. Ён жа красуецца на сучасным лагатыпе Падляшскага ваяводства.

На беларускім баку сустрэнем яго ў гербах Берасцейскай і Гарадзенскай абласцей.

Вельмі цікавы выпадак сустрэў мяне калісь у далёкай Малдове. Там, як нідзе, ведалі Белавежскую пушчу. Як гэта магчыма? На гэта спрацавалі гістарычныя падзеі і зубры!



Напрыканцы мінулага стагоддзя Малдова стала незалежнай краінай. У такія моманты заўсёды мяняюцца нацыянальныя сімвалы: герб і сцяг. У герб Малдовы вярнуўся старажытны знак фракійцаў: галава зубра. Каб герб не атаясамляўся адно з мінулым, малдаване рашылі рэальна аднавіць статак зуброў. З дапамогай прыйшла Рэспубліка Беларусь, якая падарыла ім першы статак. Падзея была шырока асветлена ў малдоўскім тэлебачанні, радыё і прэсе. Разам паказвалі Белавежскую пушчу ды культуру людзей прыпушчанскіх вёсак. Найбольш уражваў старажытны лес. Цікавасць падбівала адна акалічнасць — Рэспубліка Малдова амаль поўнасцю пазбаўлена лясоў. Іх краявід значаць бясконцыя палі з вінаградам, сланечнікамі, абрыкосамі, перцам і памідорамі. Самым папулярным дрэвам там з'яўляецца грэцкі арэх, якім абсаджаны ўсе дарогі...

Падумаеце, дзе ж тады пасялілі нашых зуброў? Іх пасялілі ў самым прыгожым запаведніку, лясным парку краіны, непадалёк сталіцы, Кішынёва. Да кампаніі купілі яшчэ зуброў з польскага боку пушчы. У іх нарадзіліся зубраняткі. Вось якім чынам звяркі „перасяклі" жалезны плот, які сёння раздзяляе Польшчу і Беларусь. Такая моц легенды, якая можа адрадзіцца ў нечаканы момант.

**ЗОРКА**

# Фестываль шматлікіх моў



Дашкольнікі з Беластока, Кляосіна, Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага ды Пуньска прынялі ўдзел у восьмым ужо Фестывалі дзіцячай песні нацыянальных меншасцей Падляшша. Шмат хваляванняў спадарожнічала іх выкананням з беларускай сцэны ў сядзібе Беларускага таварыства па вуліцы Варшаўскай, 11 у Беластоку. Песні на беларускай, украінскай і літоўскай мовах спявалі ў гэты раз васемнаццаць груп і малых салістаў, між іншым, з дзіцячага садка № 14 і пачатковай школы з інтэграцыйнымі аддзеламі № 55 у Беластоку ці самаўрадавых садкоў № 1 і № 5 у Гайнаўцы. Дзеці не скрывалі, што падрыхтавацца да выступленняў часта дапамагалі ім бацькі.

— Дома спяваю часам з татам, часам з мамай. Я падрыхтавала дзве песенькі. Першая з іх — пра літарку „ш", а другая — пра Яраслава, які згатаваў суп, — расказваў „Зорцы" Міколка Здрайкоўскі з Самаўрадавага дзіцячага садка № 14 з польскай і беларускай мовамі навучання, якога дырэкцыя і настаўнікі з'яўляюцца арганізатарамі фестывалю.

Яго дашкольны сябра Міхась Бяльскевіч прызнаўся „Зорцы": „Я спяваю заўсёды, калі толькі магу!" і паскардзіўся: „Раз не заспяваў, бо мая мама захварэла і я не меў як прыйсці на Варшаўскую!".

Са сцэны плылі, між іншым, папулярныя беларускія песні, такія як „Беларусачка" ў выкананні Вікторыі Кірылюк з гайнаўскага садка № 1. Эва Гняздоўская, адна з настаўніц, арганізатарка гэтага дзіцячага свята, падвяла восем фестывальных гадоў:

— Фестываль аказаўся стрэлам у дзесятку. Ахвотна да нас прыязджаюць дзеці з Пуньска ці з Бельска-Падляшскага. Таксама сярод нашых беластоцкіх дзяцей і настаўнікаў карыстаецца ён вялікай папулярнасцю.

Усе ўдзельнікі атрымалі цікавыя прызы. Наступны фестываль — праз год.

**Тэкст і фота**
**Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Музыка з кайфам

## Мама, тата, я

Так прыемна складаецца ў календары святаў у Польшчы, што пераход з траўня ў чэрвень становіцца вялікім сямейным святам. 26 траўня гэта Дзень маці, а 1 чэрвеня адзначаецца Дзень дзіцяці. Пра бацькоў таксама варта ўспомніць, бо якраз яго свята не зусім далёка, бо 23 чэрвеня. Атрымліваецца такі прыемны час, які можам свабодна назваць сямейным месяцам. У той час варта звярнуць увагу на патрабаванні дзяцей і бацькоў, каб кожны адчуў сябе патрэбным і каханым.

Вельмі сур'ёзна да гэтага перыяду ставіцца беластоцкае аб'яднанне бацькоў АБ-БА, якое і на гэты раз падрыхтавала спецыяльную праграму з дзяцьмі ў галоўнай ролі. Так было 25 траўня, калі ў „Склепе з культурай" па вуліцы Чэнстахоўскай у Беластоку новыя спектаклі прэзентавалі вучні розных класаў, якім беларуская мова не чужая. У тым жа „Склепе" ў гэтую пятніцу, якраз у Дзень дзіцяці можна сустрэцца з бардам Андрэем Мельнікавам, які заспявае для сем'яў і дзяцей, тым больш што традыцыяй сустрэч аб'яднання АБ-БА з'яўляецца супольнае святкаванне прынамсі трох пакаленняў. Гавару сёння пра дзетак аб'яднання АБ-БА, бо яно ў чэрвені ладзіць юбілей 15-годдзя навучання беларускай мове ў школах Беластока, а немагчыма сабе ўявіць гэтай адукацыі без музыкі і тэатра. Спектакль „Станцыя вар'ятаў", які будзе можна пабачыць у час юбілею 6 чэрвеня, заснаваны на цудоўных песнях на словы Агнешкі Асецкай. Дастаткова ўспомніць „Цацачную краму" — у рамках заняткаў „Гульня ў тэатр" узніклі прынамсі тры варыянты музычных спектакляў. Няма адукацыі без музыкі, што пацвярджаюць удзел беларускіх дзетак у музычных фестывалях, конкурсах ці аглядах, дыскі з музыкай, фальклорныя калектывы ці нават спектакль „Ой дайно, дайно", які без спеваў гучаў бы інакш. Чым больш музыкі, тым цікавей на ўроках, тым больш прывабнай становіцца беларуская мова, якая кожнаму з нас ляжа з дзяцінства асацыюецца з народнымі калектывамі, каляровымі касцюмамі, добрай гульнёй, радасцю і прыемнасцю. І сёння ўсё гэта ёсць. Але найбольш цешыць, калі такія зоркі як, напрыклад, „NRM" спяваюць супольна з дзяцьмі „Мама, тата, гэта я". Тады разумееццa, што дзеці і сям'я гэта таксама важная тэма ў камерцыйным свеце вялікіх кар'ер.



i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 23

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 19:**

**Цмок, крок, вяз, гуска, вушка, сто, на, пром, ярына, Барыс, гіт, коска, кіт, тарпан. Ястраб, акт, гумарыст, душ, рыска, склон, ар, рука, маг, Іра, не, капітан.**

**Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы", выйгралі Мая Радзіванюк, Лукаш Марчук, Наталля Лукша, Аляксандра Куптэль, Патрыцыя Лаўнічук** з Нараўкі, **Дыяна Галёнка** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Раманюк** з Арэшкава, **Вераніка Пташынская** з Дубін. Віншуем!



# Заспявалі па-беларуску

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**У час цэнтральных элімінацый XXXIX конкурсу „Беларуская песня", арганізаванага Таварыствам беларускай культуры для дашкольнікаў, вучняў падставовых школ і гімназій, якія 18 мая прайшлі ў Бельскім доме культуры, выступілі шэсцьдзесят два выканаўцы — салісты, малыя групы, калектывы і хары. Маладыя спевакі запрэзентавалі сучасныя беларускія творы і народныя песні. Узровень выступаў быў розны, але ўсе выступленні публіка ўзнагароджвала апладысментамі.**

Выступы распачалі дашкольнікі, якія сваім шчырым спевам здабылі асаблівую прыхільнасць публікі. Першымі выйшлі на сцэну дзеткі з Непублічнага прадшколля імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім.

— Нашыя дашкольнікі выступілі з апрацаванымі народнымі творамі, — заявіла музычны апякун дашкольнікаў Марта Зінкевіч. — Атмасфера на конкурсе падабаецца нашым дзеткам і нам. Побач выступаў на сцэне можам паслухаць іншых дзетак. Нашае прадшколле з праваслаўным і беларускім ухілам. Дзеткі дэкламуюць беларускія вершыкі, спяваюць беларускія песні, гуляем з выкарыстаннем прымавак на беларускай гаворцы. У супрацоўніцтве з Музеем малой айчыны ў Студзіводах мы знаёмім дашкольнікаў з неапрацаваным фальклорам, напрыклад, сёлета рабілі гэта ў рамках мерапрыемства „Багаты вечар".

Найбольш дашкольнікаў прыехала з Гайнаўкі, якія дастойна запрэзентаваліся ад імя трох самаўрадавых прадшколляў — №№ 1, 2 і 5. Хаця нямнога дзетак было з Прадшколля № 14 у Беластоку, то займальна выступілі сола і ў дуэце.

На высокім узроўні выступілі салісты з Непублічнай пачатковай школы св. св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якіх падрыхтавалі Генадзь Шэмет і Марта Грэдаль-Іванюк, музычны інструктар Гайнаўскага дома культуры. Яна вельмі ўдала падрыхтавала да выступаў перш за ўсё вучняў са Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, якія занялі першыя месцы ў многіх катэгорыях.

— Мне цікава паслухаць удзельнікаў конкурсу са школ і іншых устаноў культуры. Асаблівую ўвагу звяртаю на рэпертуар і цікавейшыя песні, — сказала Марта Грэдаль-Іванюк, апякун Студыі эстраднай песні, якая нядаўна адзначыла пяцігадовы юбілей. Сама Марта Грэдаль спявала ў калектыве „Знічка" Гайнаўскага белліцэя.

— Наш калектыў „Малое ГДК" у час раённых элімінацый у Гайнаўцы атрымаў Гран-пры (на цэнтральных заняў першае месца сярод калектываў з класаў 0-VI, Гран-пры не было), — дадала Марта Грэдаль. Перамаглі таксама яе салісткі: Іза Карчэўская заняла першае месца ў катэгорыі класаў 0-III, а ў катэгорыі класаў IV-VI першае месца заняла Кацярына Дружба, абедзве ад ГДК. Сярод гімназістаў квартэт і дзве салісткі Юліта Ваўрашук і Паўліна Нікалаюк, усе з ГДК, занялі таксама першыя месцы ў сваіх катэгорыях. Усе яны выступілі з сучаснымі эстраднымі песнямі папулярнымі ў Рэспубліцы Беларусь.

Найбольш спелыя выступы былі ў катэгорыі вучняў класаў IV-VI падставовых школ і ў катэгорыі гімназістаў. Многія з іх займаюцца ў калектывах і выступаюць сола ўжо з першых класаў падставовай школы.

— Выступаючы шмат гадоў на сцэне мы здабываем новы вопыт і новыя ўмеласці, — заявілі Юліта Ваўрашук і Паўліна Нікалаюк з ГДК.

— Падабаюцца нам песні ў выкананні іншых спевакоў, — сказаў Матэвуш Харкевіч, гайнаўскі белгімназіст.

Матэвуш выступае таксама перад публікай у сваёй школе і ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы іграючы на акардэоне. Вера Масайла прывезла на конкурс сваіх вучняў ад імя ГДК.

— Складана падабраць рэпертуар, які добра падыходзіў бы да ўзросту і тэмпераменту вучняў. Сёлета выбраць песні для маіх вучняў дапамагаў мне дырэктар БДК Сяргей Лукашук (яго вучні з бельскай „тройкі" штогод дабіваліся поспехаў на конкурсах беларускай песні, але зараз дырэктар Сяргей Лукашук не займаецца ўжо са школьнымі калектывамі), да якога я звярнулася за дапамогай, — удакладніла Вера Масайла.


Калектыў „Капрыс" з бельскай „тройкі"

Самых вялікіх поспехаў дабіўся Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы з Бельска-Падляшскага (г.зв. бельская „тройка"), у якім дзейнічае каля дзесяці калектываў песні і танца. У час цэнтральных элімінацый конкурсу з гэтай школы выступілі шэсць вакальных калектываў (звыш пяцідзесяці асоб) і салістка. Усе яны занялі прызавыя месцы. А яшчэ два калектывы, кваліфікаваныя на цэнтральныя элімінацыі, не змаглі запрэзентавацца, бо якраз у дзень конкурсу частка вучняў выехала на спартыўныя спаборніцтвы і школьныя экскурсіі.

— Мы любім спяваць па-беларуску. Беларускія песні вельмі прыгожыя, а беларуская мова нам вельмі блізкая, — заявіла вучаніца „тройкі" Анна Гуль з калектыву „Капрыс" (заняў першае месца), якая выступіла таксама з калектывам „Жэмэрва".

Удала выступіў калектыў „Вянок" з „тройкі" (таксама першае месца), якім апякуецца Іаанна Хількевіч.

— Я займаюся ў школе з вакальнымі калектывамі і танцавальнымі гуртамі „Світанак" і „Світаначак". Калі я падбіраю рэпертуар для вучняў стараюся, каб яны канчаткова вырашылі што будуць спяваць, ведалі аб чым будуць спяваць і адобрылі словы і музыку. Спачатку звяртаю ўвагу на правільную дыкцыю, эмісію голасу, вучу спяваць асобнымі галасамі і толькі пасля вучымся спяваць супольна, — расказвала Анна Вярцінская з „тройкі", якая ўжо каля дзесяці гадоў працуе там з музычнымі калектывамі.

— Мы вельмі любім спяваць, гэта нашае хобі. Радуемся, калі добра атрымліваюцца выступленні, — сказалі Аляксандра Варшыцкая і Наталля Ракіцкая, спявачкі калектыву „Капрыс". Аляксандра Варшыцкая паспяхова выступіла яшчэ ў калектыве „Астэр'я" Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім і ў дуэце са сваёй сястрой.

— Мы ў калектыве „Астэр'я" жывем як у сям'і, смяемся, радуемся, а калі трэба цяжка працуем, — гаварылі бельскія дзяўчаты з „тройкі".

З неапрацаванымі фальклорнымі песнямі выступілі малодшая група калектыву „Жэўжыкі" з „тройкі" (занялі трэцяе месца), „Жэмэрва" з Музея малой айчыны ў Студзіводах (заняла першае месца ў сваёй катэгорыі) і квартэт „Антракт" з Бельскага дома культуры (заняў другое месца), якім апякуецца Альжбета Фіёнік.

— Мы спяваем нашыя традыцыйныя песні з Падляшша, якія ўводзяць новую якасць у час конкурсу беларускай песні, — сказала Анна Фіёнік, настаўніца з „тройкі" і заадно апякун „Жэўжыкаў" і „Жэмэрвы".

— Узровень конкурсу беларускай песні даволі высокі. Я хацеў звярнуць асаблівую ўвагу на тры накірункі ў гэтым конкурсе. Цікава і на высокім узроўні прэзентуецца тут аўтэнтычны фальклор, мясцовы падляшскі рэпертуар, што павінна быць прыкладам для іншых выканаўцаў. Маю тут на ўвазе „Жэмэрву", „Жэўжыкі" і „Антракт". З эстраднымі беларускімі песнямі ўдала выступілі вучні Марты Грэдаль, у якіх ёсць ужо вялікая практыка — не баяцца яны сцэны і любяць прэзентавацца перад публікай. Што тычыцца беларускіх апрацаваных народных песень, то цікава з імі запрэзентаваліся вучні Аліны Негярэвіч з Бельска, — сказаў пасля конкурсных слуханняў старшыня камісіі, хормайстар і музыколаг з Гродна Алесь Лойка, які станоўча ацаніў таксама калектывы з бельскай „тройкі".

— Вельмі важна трапна падабраць рэпертуар да музычных магчымасцей вучняў. Важна таксама, што на конкурсе паявіліся новыя калектывы, хаця б з вясковай святліцы ў Машчоне-Каралеўскай, ці новыя спевакі з Гайнаўскага дома культуры, — заўважыла вядучая конкурс Альжбета Фіёнік, інструктар Бельскага дома культуры, вучні якой асабліва цікава запрэзентавалі неапрацаваны фальклор.

Паміж конкурснымі змаганнямі вучняў у якасці зоркі мерапрыемства з канцэртам выступіў дзіцячы ансамбль беларускай народнай песні „Цернічка" мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.

Пасля аб'яўлення вынікаў конкурсу стала вядомым, што ў катэгорыі дашкольнікаў і вучняў класаў 0-III першага месца сярод салістаў дабілася Іза Карчэўская з Гайнаўскага дома культуры, другія месцы занялі Марыя Савіцкая з Непублічнай школы імя св. св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Магдалена Ігнатовіч з Непублічнага прадшколля імя св. Гаўрыіла ў Бельску і Ева Іванюк з ГДК, а трэцяе месца прызначылі Іаанне Мусюк з Прадшколля № 14 у Беластоку і Дамініцы Козлюк з Комплексу школ у Ягуштове. Сярод дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў у згаданай катэгорыі першае месца занялі Паўліна Баніфацюк і Магдалена Андраюк з Вясковага дома культуры ў Рыбалах, на другім месцы апынуліся трыо з Рыбалаў і трыо (Оля Галёнка, Магдалена Ігнатовіч і Якуб Ромбель) з Прадшколля імя св. Гаўрыіла ў Бельску, а трэцяе месца занялі Іаанна Пяткевіч і Агата Лукашэвіч з Прадшколля № 14 у Беластоку.

Сярод вучняў класаў IV-VI падставовых школ у катэгорыі салістаў першае месца заняла Кацярына Дружба з ГДК, другое — Юлія Куська са Школы св. св. Кірылы і Мяфодзія, а трэцяе месца — Магдалена Маліш з КШ у Ягуштове. У гэтым узросце сярод дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў першага месца журы не прызначыла, а другое месца заняў квартэт „Антракт" з Бельскага дома культуры.

Сярод салістаў гімназічнага ўзросту першыя месцы занялі Юліта Ваўрашук і Паўліна Нікалаюк з ГДК, другога месца журы не прызначыла, а трэцяе заняла Наталля Ракіцкая з бельскай „тройкі", а з ліку дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў першае месца занялі „Жэмэрва" са Студзіводаў і квартэт Студыі эстраднай песні ГДК, другое месца — Адрыянна Шуй і Паўля Карнілюк з КШ імя А. Міцкевіча ў Бельску, а трэцяе месца — Марта і Аляксандра Варшыцкія з Дома праваслаўнай культуры ў Бельску.

У катэгорыі калектываў першае месца ў катэгорыі класаў 0-VI заняў калектыў „Малое ГДК" з Гайнаўкі, другія месцы — калектыў з Прадшколля імя св. Гаўрыіла ў Бельску і „Вяночак" з бельскай „тройкі", а трэція месцы — „Жэўжыкі" і „Малая вясёлка", таксама з „тройкі". Сярод гімназічных калектываў першыя месцы занялі калектывы „Капрыс" і „Вянок" з бельскай „тройкі", другое месца калектыў „Астэр'я" з Дома праваслаўнай культуры ў Бельску, а трэцяе месца — калектыў „Струмок" з Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных.

У катэгорыі хароў першае месца заняў хор „Камертон" з КШ у Ягуштове, другое месца занялі — хор „Зорачкі" з Прадшколля № 5 у Гайнаўцы і хор з Пачатковай школы ў Дубінах, а трэцяе месца — хор „Калебка" з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы.

# З жыдамі жылі мы вельмі добра



*Успаміны ваеннага часу* ***Любы СТЭПАНЮК*** *з роду Казлоўскай, народжанай у 1922 годзе ў Орлі.*

**У Орлі з жыдамі жылі мы вельмі добра. Побач нас (цяпер рог вулiц Вузкай і Чырвонай Арміі) жыў шавец Янкель, а побач яго Гашка, прадавачка з крамы. Муж Гашкі называўся Арый — займаўся ён скупкай розных рэчаў у навакольных вёсках, па якія ездзіў возам-жалезняком. Гашка з Арыем мелі тры дачкі: Гану, Юдыс і Мірчу.**

Аднойчы жалязняк Арыя з гурбай скрынак з курамі перакуліўся на адной з калдобістых дарог і прыдушыў яго. Знайшлі яго іншыя жыды, але дадому прывезлі ўжо мёртвага.

Жыды мелі свой хаўрус, куды збіралі грошы на выпадак няшчасця. Мелі яны таксама сваю касу — быў гэта банк Стэфчыка (распалажаны ў суседстве панадворка Цэтры; да вайны была там малачарня — М. М.).

Ці тым банкам карысталіся хрысціяне? Так, калі мой бацька Мікалай будаваў дом, то там браў пазыку. Жыды ахвотна давалі ў доўг, бо з гэтага мелі працэнты, а калі хто не аддаваў грошай, то да яго з'яўляўся зборшчык. Жыдам залежала, каб толькі людзі бралі пазыкі, а з вяртаннем даўгоў умелі яны спраўляцца.

У бежанства ў Расію падаліся мае дзяды з дзецьмі. У бежанстве пазнаёміліся мае бацькі — мама з Пятроўскіх і бацька з Казлоўскіх. У Расіі бацька быў яшчэ кавалерам — там яго забралі ў войска, у сапёры; многія з іх не вярнуліся. Бацька вярнуўся ў Орлю годам пазней за маму. Вярнуўся з канём, якога купіў за грошы, зароблены ў час службы на моры. Бацька працаваў сваім канём, вазіў людзям драўніну з пушчы — так працаваў, каб сабе поле купіць, каб мець з чаго жыць. Пасля купіў ён шэсць гектараў зямлі. Жыды таксама гандлявалі зямлёй. Людзі пасля вяртання з бежанства нічога не мелі, таму пазбываліся грунтаў, каб мець сродкі на ежу. Жыды ў бежанстве не былі, жылі яны ў Орлі ў нашых хатах. Помню, што па вуліцы Пасвятнай (цяпер Чырвонай Арміі) побач сінагогі жыла сям'я Дробных. У час нямецкай акупацыі бурмістр даў гэты дом бацьку Рузі, які прыехаў недзе з польскай глыбінкі і пабудаваў сабе дом на калёніі Антанова, але немцы яго перасялілі. У суседстве Дробных была жыдоўская лазня (мыква), якую пабудаваў Шмулько (пры саветах некаторыя прылады адтуль бралі для пабудовы „бані", якая служыла арлянам да 1960-х гадоў — М. М.). Хрысціяне таксама туды хадзілі, бо дома ніхто чагосьці такога не меў. У чацвяргі мыліся жыды, а па пятніцах нашы. За лазню мы плацілі, але аплата тая не была вялікая. У лазні купаліся і мужчыны, і жанчыны, толькі ў розных яе камерах. Прыносілі з сабою бярозавыя мяцёлкі, мужчыны палівалі вадою гарачыя камяні, узнімалі пару. Хадзілі туды ўсе — старыя і малыя, дзеўкі і дзеці, ніхто на нікога не звяртаў увагі, бо ў той час не было іншага месца, дзе б можна было парадачна памыцца.

Цэлы рынак у Орлі (зараз гэта парк) быў навокал абстаўлены жыдоўскімі крамамі, а сярэдзіна пляца пуставала. У рынку былі аж чатыры жыдоўскія пякарні, у якіх хлеб куплялі самі жыды; нашы людзі хлеб выпякалі саматужна. Хлеб з адной выпечкі сям'я спажывала цэлы тыдзень. Жыды выпякалі таксама смачныя булачкі, якія давалі дзецям у школу; хрысціянскія дзеці ў школу бралі хлеб з саланінай. У школе жыды атрымлівалі таксама чай, а нашы людзі сваіх дзяцей на чай не запісвалі з-за нястачы грошай.

У школе сядзела я за адной партай з Надзькай Ярымовіч. Парта была прызначана траім вучням і між намі (каб мы не размаўлялі) пасадзілі рыжую жыдоўку, якой мы не любілі. Ад жыдоў выходзіў таксама нейкі непрыемны пах, невядома ад чаго. Жыдоўкі наогул былі рыжыя; было і некалькі прыгожых.

Нашыя хрысціяне заходзілі ў сінагогу ў свята Суднай ночы, каб пабачыць каго „тайбол" (жыдоўскі чорт) украдзе. Жыды маліліся і падалі на падлогу, а нашы хлопцы, бывала, наловяць на жыдоўскіх могілках варон (здаралася, што і галубоў) і выпусцяць іх у сінагозе. Птушкі лятаюць па сінагозе, лапочуць крыламі, гасяць высокія на паўметра свечы. Жыды лямантуюць, узнімаюць шум.

У бабінцы, бакавой дабудове сінагогі, жыў жыд Патлер, які быў лёгка недаразвіты. Па вуліцы Бельскай жыў жыд Вадзілоўскі (Мошка, гандляр, у ягоным будынку адбываліся таксама патанцоўкі — М. М.). Хадзілі мы туды патанцаваць ды наведвалі ягоную сястру, якая мела сваю краму па вуліцы Кляшчэлеўскай (тады Нарваўскай), недалёка царквы. На другім баку, за царквой, жыў жыд Ашэрук, які гандляваў збожжам. Мой бацька, бывала, купіць каня, прадасць каня, а жыды, якія таксама займаліся гандлем, бачылі гэта. Нашы людзі больш ахвотна прадавалі сваім чым жыдам і тыя за тое адкрыта абражаліся на бацьку. Аднойчы, калі бацька купіў каня, жыды прыйшлі да яго з прапановай, што хочуць таго каня адкупіць; бацька не хацеў... Тады яны падаліся на пастарунак паліцыі. Бацька быў начным вартаўніком у Орлі, пільнаваў, каб ніхто не зацерушыў пажару, быў таксама таленавітым матэматыкам і дапамагаў паліцыянтам у працы. Яны патлумачылі жыдам, што „Казлоўскі гэта добры чалавек".

На месцы сённяшняй прыцаркоўнай стаянкі ў даваенны перыяд была аптэка. Аптэкары былі добрыя і спагадлівыя. Бывала, зойдзеш да іх з болем ног (найчасцей людзям дакучаў раматус) і тады аптэкарка, якая добра ведала рускую мову, гаварыла: „То я вам сделаю состав". Іншым разам давала „на обар". Калі ўспыхнула вайна і паявіліся немцы, уся наша сям'я ўцякла да кашалёўскага солтыса, які ў падвале зрабіў сховішча. З'явіліся туды таксама аптэкары, у якіх не было дзяцей. Немцы дазволілі ім забраць крыху рэчаў з сабою; мелі яны дзве валізачкі. Яны гаварылі: „Мы толькі выйшлі і яны падпалілі хату".

А пасля на рынку ў Орлі немцы заклалі гета — аж па вуліцу Кашалёўскую. Была брама і жыдам было забаронена выходзіць за межы гета. Бралі іх да працы, галоўным чынам да разбівання каменных мацэваў, якімі пасля масцілі дарогу ў напрамку Вулькі і Бельска. Спецыялістычнай работы жыдам не даручалі. Такім чынам немцы расчысцілі жыдоўскі могільнік з намагільнікаў, засеялі там пшаніцу, абгарадзілі дротам, але сабраць ужо не паспелі — ураджай сабралі саветы; пшаніца пайшла на хлеб для іхняга войска. Тады пшаніца была вельмі абрадзіла.

Нашы людзі займаліся земляробствам, а немцы і саветы вельмі любілі малако. Мама Марыя даіла кароў і ставіла малако ў „гладунках" на стол, адкрывала акно. Яны прыходзілі ноччу, бралі гладункі, але не вярталі іх, а пакідалі ў іншых месцах.

Калі набліжаўся фронт, закалолі мы вепрука, пакінулі мяса ў падвале і пасля ўцяклі ў Кашалі. Немцы выдабылі з падвала цэлую шынку, падсмажвалі яе і елі. Калі я вярнулася з Кашалёў дадому каб нешта ўзяць, застала там нямецкіх салдат. Яны бянтэжыліся хадзіць у падвал у маёй прысутнасці. Адзін салдат хацеў адвярнуць маю ўвагу, выняў здымкі і пачаў расказваць пра сваю сям'ю. Я слухала яго, але і наслухоўвала іншых адгалоскаў. Калі пачула водгалас адкрыванага ў падвал клапана, я кінулася туды. Немец вылез з падвала, пакідаючы наша мяса.

З сенніка ў дзіцячым ложачку зрабілі сабе анучкі. Пасля выдаіла я карову і прынесла ім цэлае вядро малака, працадзіла пры іх. На маім панадворку было іх поўна, але былі яны вельмі ветлівыя. І галодныя былі... Пасля, калі адступалі, ішлі чацвёркамі, без канца. Мы баяліся нават выглядаць праз вокны.

Вайна нясе такія эпізоды, на якія страшна глядзець. Напрыклад, калі гналі арлянскіх жыдоў. Было дазволена глядзець як іх выводзяць, але глядзець не хацелася. Жыды выходзілі з брамы парамі, па двое. На фурманкі бралі толькі старых і дзяцей, а апошніх пяшком гналі ў Бельск. Калі ўжо ўсе выйшлі з гета і выстраіліся ў рад, выйшаў апошні арлянскі рабін, Эля Гальперн, і затрубіў, пасля чаго сказаў: „Ніхто нам не віноўны, мы саграшылі самі і мусім тое панесці". І стаў у першы радок.

Ці жыды прабавалі раней хавацца? Памятаю, што прыйшла да нас адна з дачок Гашкі, Юдыс, было ёй тады мо з 18 гадоў, сядзела цэлы дзень. Не гаварыла, аднак, што хацела б у нас застацца, вярнулася потым дадому; гета тады яшчэ не было. Нейкі тыдзень раней ейная кульгавая маці Гашка прынесла нашай маці каробачку цукру. Гана, сястра Юдыс, звязала мне світэр, а я ёй пашыла дзве блузачкі. Жылі мы з тымі жыдамі вельмі добра, не рабілі між сабой ніякіх розніц. Жыды не былі нам дрэннымі, гэта нашы дзеці ці моладзь часам іх чапляліся. Са школы запамятала добра настаўніцу Цежухову, якая была і апякункай класа, была вельмі файнай. Уласных дзяцей яна не мела. Яе муж быў войтам і жылі яны ў будынку старой гміны.

Закончыла я ў арлянскай шасцігодцы чатыры класы. А ў пяты клас бацькі мяне ўжо не пусцілі. Калі б тады закончыла ўсе шэсць класаў, то сёння была б у іншым месцы, бо вельмі добра давалася мне навука. Пайшла тады вучыцца на краўчыху ў Бельск і пасля шыццём зарабляла. Замуж пайшла ва ўзросце каля дваццаці гадоў, у час нямецкай акупацыі, у 1943 годзе нарадзіла дачку.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Роздумы над жыццём

Яшчэ не так даўно былі мы маладыя, здаровыя, не дакучалі нам хваробы. Кожная хвіліна жыцця суцяшала нас, бяда ўцякала далёка ад нас. Здавалася, што мора нам па калені. Кожны думаў пра сябе: „О, го-го, я яшчэ герой, усяму даю рады. І з жыццём спраўляюся сам, і нярэдка другім дапамагаю. Усё сам магу зрабіць, нічыёй дапамогі не шукаю".

А калі настаў час кахання, дзяўчыны яшчэ не меў. Тады яшчэ глядзеў на дзяўчат фанабэрыста. І мары такія па галаве блукалі, што тады толькі дзяўчыну пакахаю, калі знайду найпрыгажэйшую. А пра тое, ці яна мяне захоча, нават не падумаў. Як жа ж мае мяне не захацець? Сам прыгожы, малады, поўна сіл да працы і да жыцця. І так дзяўчыну пакахаю, каб задаволеная была ад пачатку да канца. Бо якога ж хлопца дзяўчыне трэба? А на тых дзяўчат, што на патанцоўках у куце стаялі, і глядзець не было ахвоты. Бо кожны з нас, маладых, панам сабе здаваўся.

Ніводзін не падумаў, што калісь усё праміне. Што свет так збудаваны, што калі не скарыстаеш свайго моманту ў час, не азірнешся, калі ўсё праміне. А нам толькі ўспаміны і горыч астануцца, бо мінулага часу ніхто не дагоніць. Што прайшло, таго не вернеш. Так было і так, пэўна, астанецца. А мо навука так пойдзе наперад, што і мінулы час вяртаць будзе? Не пры нас; гэта не пры нас, пэўна, будзе.

Цяпер надышоў такі час, што ў люстра глядзець неахвота. Што з намі час зрабіў? А жыцця толькі паўсотні гадоў прайшло. А мы змяніліся, што і не пазнаць. Ці то мы, ці не мы? А можа нам здаецца? Не, сапраўды гэта мы! А час надалей наперад рвецца. І з нас цяпер смяецца. Ён сваю працу прадаўжае. Пастарэлі мы, і то на столькі гадоў, што цяжка палічыць. Маладыя гады пракаціліся, надышла старасць і сваю працу з намі зрабіць паспела. Кожнага гэта чакае; каго раней, каго пазней. Нікога такая прыгода ў жыцці не абмінае. Хаця стараўся, клапаціўся, на старыя гады мноства дабра прыдбаў.

Адно добра, што на другі свет таго, што на гэтым накруціў, не забярэш. Забіраеш з сабою толькі маршчыны, што з'явіліся на твары, і постаць сваю, што час змяніў. Наперад чагосьці пахіляцца сталі, не аднаму падпору ў рукі трэба браць на старасць. Крок змяніўся, хутчэй сталі хадзіць, быццам некуды спяшалі. А можа астатак жыцця бегам прабегчы хочам? Пэўна яно так, яго так мала ў нас асталося. І слых не той, што даўней быў, штокаць пачалі часцей. Звяртаецца хто да нас — за першым разам яго не разумееш, дапытвацца не раз трэба, каб нешта зразумець.

Непатрэбнымі ўжо сталі некаторым. Ой, Божа мой, Божа. А куды ж тыя маладыя гады прапалі? На дзяўчат ужо не спаглядаеш, бо і хадзіць як след ужо сіл не маеш. Усе дзяўчаты ўжо нам прыгожыя, бо маладыя. І як станеш так успамінаць, падумаеш: „А калі гэта ўсё так хутка прайшло, што так хутка старасць да нас падкацілася?". Толькі яшчэ спраў асталося незавершаных. А нападзе адно толькі асталося, аж згадваць няма ахвоты. І няміла, не! Аб гэтым успамінаць не буду; кожны няхай сабе сам у памяці дапіша. І шлях жыццёвы няхай падсумуе, як праляцеў так незаўважна. Аб гэтым кожны з нас няхай памятае.

Хаця некаторых жыццё і доўгае бывае, адзін канец усіх чакае. І ўсяго нам мала, калі яшчэ жывём. Кожны ўсё больш з кожным днём занядужвае. Аднак той час надыдзе, калі ўсяго ўдосталь будзе. Калі бацюшка вечную памяць адспявае і назаўсёды праўдзіць цябе людзі.

**Грыша МАРОЗ**

1 ☞ працяг

# Беларуская мова — малаістотная справа

— А ведаеце які гэта кошт!!! — узбураецца ён. — Дзе мне ўзяць на гэта ўсё грошы. Няма нават пра што думаць...

Юры Шыкула працаваў раней дырэктарам гімназіі, таму справы і праблемы школы і ведае, і разумее напралёт. Аднак, як дыпламат, не хацеў даць адназначнага каментарыя ў справе звальнення Альжбеты Раманчук.

— Мая асоба тут ні пры чым, — сказаў ён. — Рашэнне аб звальненні або прыняцці на працу прымае сам дырэктар.

Нам таксама параіў заняцца сур'ёзнымі тэмамі і ў якасці прыкладу напомніў пра адмену трансгранічнага цягніка між Чаромхай і Высокім.

— *To są prawdziwe problemy, a wy cały czas drążycie jakieś mało istotne sprawy.*

## Атрымала ўзнагароду дырэктара

— Цяпер, калі ў мяне свая малеча, даезд у Гарадок больш складаны, — наракае Альжбета Раманчук. — Чалавек сядзе за руль і думае як там дзіцятка.

Мацярынства патрабуе перадышкі, стабільнасці. Добра, што Альжбету Раманчук зноў прынялі на працу ў Гарадку і Залуках. Там жа ёсць вопытныя беларусісткі.

— Гэта вартасны, добры настаўнік, — кажа Анна Грыцук, дырэктар гімназіі ў Гарадку пра Альжбету Раманчук.

У іх гімназію прыйшла яна яшчэ студэнткай у 2005 годзе. Пяць гадоў пазней атрымала дырэктарскую ўзнагароду за салідны ўклад у працу школы. Дзякуючы яе ангажаванасці гарадоцкія гімназісты далей падтрымоўвалі міжшкольнае сяброўства з Нарвай. Дырэкцыя належным чынам ацаніла таксама супрацоўніцтва Альжбеты Раманчук з „Гарадоцкімі навінамі" і нашай „Нівай".

— У яе добры кантакт з дзецьмі, — кажа Анна Грыцук. — Яны разам рыхтуюць беларускія сцэнкі для конкурсаў і школьных святкаванняў. Калі ідзе пра лік навучэнцаў, ён заўсёды трымаўся на прыблізным узроўні. Вось у 2005 годзе было 36 гімназістаў і на наступны год запісаліся ўжо 32 асобы. Ад верасня гарадоцкая гімназія і пачатковая школа аб'ядноўваюцца ў Комплекс школ, з-за чаго агульны лік навучэнцаў беларускай мовы пабольшыцца яшэ ўдвая. Аднак на апошні поспех працавала тут шмат людзей.

— Мы самі ідзем да бацькоў пераканаць іх, каб запісалі дзяцей на беларускую мову, — кажа гарадоцкая дырэктарка.

## Падапрэшся як гнілым плотам

Паездка ў Чаромху не магла абысціся без традыцыйнай сустрэчы з „Зоркай". На месцы мяне чакала шасцёра прадстаўнікоў ад малодшай і трох ад старэйшай груп. Сярод дзявочай жменькі апынулася толькі адна ветэранка. Падобна выглядала рэчаіснасць сярод малодшых навучэнцаў. Усе дзеці, апрача гэтай двойкі, пачалі хадзіць на мову толькі з верасня. У гэты момант той статыстыкай у выглядзе дзесяці адсоткаў я магла падперціся як гнілым плотам. У сэнсе разумення мовы вучні чацвёртых і пятых класаў камунікавалі на ўзроўні непараўнальна ніжэйшым чым у беларускім садку. Праўда, іх цікавасці не было канца. З часам пачалі спяваць беларускія песенькі, гаварыць пра свае даезды ў школу, пра футбол. Адзін хлапчук прасядзеў дзве гадзіны, каб на канец падысці да мяне і сказаць, што ў яго сваякі ў Беларусі.

Каб навучанне роднай мовы спрацавала ў карысць дзіцяці, яму неабходна прайсці паасобныя этапы ў адукацыі, адпаведныя да ўзросту і здольнасцей. Навучанне найлепш пачаць з прадшколля і дапільнаваць, каб не парвалася яно да канца школы. І важна, каб працаваць на аснове мясцовых традыцый, якія на беларускім баку мяжы складаюць натуральны працяг нашай беларуска-падляшскай духоўнай культуры. У гэтай справе салідныя шляхі праклаў Дарафей Фіёнік. Жыхары Брэстчыны ці Піншчыны размаўляюць на такой жа мове як пад Чаромхай і ў сваёй адметнасці лічаць сябе свядомымі беларусамі. Няма асноўных механізмаў, якія працавалі б у карысць беларускай свядомасці. Скажу больш — тут адбываюцца кур'ёзныя з'явы. Год таму на ўроку беларускай мовы я пазнаёмілася з інтэлігентнай шасцікласніцай, якая найбольш з усіх цікавілася беларускімі справамі. І зараз я распытала што ў яе чуваць: „Ona teraz jest w gimnazjum i zapisała się na język ukraiński", — сказалі мне дзеці.

# 15-ГОДДЗЕ

## НАВУЧАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў ШКОЛАХ БЕЛАСТОКА — ЦЫКЛ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ

### 01.06.2012

$17^{00}$ Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА (вул. Чэнстахоўская, 6а, Беласток)
Дыскусійны клуб аб'яднання АБ-БА: **канцэрт Андрэя Мельнікава і сустрэча з бардам**

### 05.06.2012

$17^{00}$ Царква Св. Юр'я ў Беластоку
**Малебен за дзяцей, моладзь, настаўнікаў і бацькоў**

### 06.06.2012

$17^{00}$ Кіно Форум (вул. Легіяновая, 5, Беласток)
— галоўнае мерапрыемства
**15-годдзе навучання беларускай мовы ў школах Беластока.**
**15 гадоў Тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр".**
**Падвядзенне артыстычнай працы дзяцей і моладзі ў 2011/2012 навучальным годзе.**

У праграме:

1. Спектаклі ў выкананні ўдзельнікаў Тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр" (апякунка гуртка Аліна Ваўранюк).
— „Гульня ў сонную каралеву" паводле З. Вуйцік у перакладзе Аліны Ваўранюк (рэж. А. Ваўранюк).
— „Станцыя вар'ятаў" на аснове вершаў Агнешкі Асецкай (сцэнарый і рэж. Бэрнард Мацей Баня).
2. Дзіцячая група Студыі беларускага фальклору — падрыхтоўка Анна Васькоўская.
3. Неспадзяванка.

**НА ЎСЕ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ЎСТУП СВАБОДНЫ. ЗАПРАШАЕМ!**

# http://belinstitute.eu



Грамадска-палітычныя і эканамічныя даследаванні заўсёды будуць карыстацца попытам як сярод навукоўцаў, так і сярод звычайных людзей. Для адных гэта, у прыватнасці, пошук пацвярджэння сваіх меркаванняў альбо магчымасць крытычнага погляду на выказванні апанента, для другіх — спроба разабрацца ў хітраспляценнях сённяшняга жыцця. Праўда, для апошніх даныя даследаванні мусяць быць па меншай меры не надта мудрагелістымі, каб не паспець надакучыць чытачу. З таго, што экспертаў многа, але данесці сваю думку даступна можа не кожны, застаецца ў свядомасці простых людзей далёка не ўсе з выдатных экспертаў і аналітыкаў.

Адным з месцаў, дзе глыбіня навуковых даследаванняў спалучаецца з даступнасцю іх разумення, з'яўляецца Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў, заснаваны ў 2006 годзе і з якім многія беларусы звязваюць імёны Віталя Сіліцкага, Валера Булгакава, Паўла Данэйкі, Андрэя Вардамацкага. Каб бліжэй пазнаёміцца з дзейнасцю інстытута (які па сутнасці з'яўляецца грамадскім аб'яднаннем), варта зазірнуць на яго сайт, што месціцца па адрасе **http://belinstitute.eu**.

Выгляд галоўнай старонкі сайта не зусім звыклы — ён даволі стракаты і спачатку вочы круху разбягаюцца, а ўвагу на чымсьці адным засяродзіць цяжкавата. Але потым, калі разбярэшся ў гэтым бела-чорна-чырвоным стракацэнні, бачыш, што пасярэдзіне старонкі ідуць разнастайныя абвесткі аб мяркуемых мерапрыемствах і інфармацыя аб прайшоўшых.

Выйсці на галоўныя рубрыкі сайта знаходзяцца ўверсе выяўлення побач яго назвы. Прэзентацыйная старонка „Пра нас" схавана ў самы канец невялікага пераліку. Тым не менш менавіта яна можа многае патлумачыць інтэрнэт-карыстальніку аб дзейнасці інстытута. „Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS) гэта платформа для дыялогу ўнутры беларускай аналітычнай супольнасці і мост паміж экспертамі, беларускім грамадствам і міжнароднай супольнасцю. Шляхам даследаванняў, публікацыяў і развіцця беларускай экспертнай супольнасці BISS ставіць на мэце сфармаваць новае бачанне Беларусі. Інстытут распрацоўвае і прапануе пазітыўныя альтэрнатыўныя сцэнары палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай трансфармацыі краіны, а таксама шукае шляхі падвышэння канкурэнтаздольнасці Беларусі і дабрабыту яе грамадзян", — распавядаюць пра сябе навукоўцы.

На гэтай жа старонцы мы можам віртуальна пазнаёміцца з кіраўніцтвам інстытута і яго супрацоўнікамі. Прыемна, што да кожнага кароткага біяграфічнага паведамлення дадаецца фотаздымак, бо гэта зусім не звыкла для беларускіх сайтаў, дзе стваральнікі чамусьці лічаць за лепшае ўвогуле не абазначаць сябе.

Паколькі даныя навукоўцы вераць „у праўату" сваёй справы, то яны не маюць аніякай сціпласці, калі кажуць, што „Беларусь зараз выштурхоўваецца на шлях маштабных інстытуцыйных зменаў і радыкальнага перагляду яе эканамічнай і сацыяльнай палітык, а таксама геапалітычнай арыентацыі". Такія выказванні, магчыма, камусьці пададуцца надта смелымі, але паколькі згуртаваныя ў BISS навукоўцы ведаюць, аб чым кажуць, то падмацаванне данай тэзы варта пашукаць у рубрыцы „Даследаванні і аналітыка".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

### Івейскія крыніцы

Івейская зямля багатая пераважна і найперш лясамі, а не крыніцамі. Але назваць гэты нарыс захацелася менавіта так з розных прычын. Сучасны Івейскі раён размешчаны на Лідскай раўніне і Нёманскай нізіне, яго тэрыторыя — транзітны шлях з Гарадзеншчыны ў сталіцу краіны. Прыкладна на сярэдзіне дасьць нуднай шашы дарогу перасякае нешырокая, але вельмі прыемная рэчка Гаўя (правільны націск у назве на другім складзе). У яе прахалодзе вельмі прыемна змыць дарожныя пыл і стому — простая чалавечая радасць, якую людзі перажываюць не так і часта. Спуск да ракі каля трасы ля вёскі Залейкі вядзе паўз агратурыстычную сядзібу „У пана Яна" — месца адметнае і цікавае.

Раённы цэнтр Іўе — гэта рэгіянальная сталіца шматкультурнасці, вытокаў ідэнтычнасці некалькіх нацыянальнасцей. Адной з галоўных візітовак горада з'яўляецца татарская драўляная мячэць. Беларуская неафіцыйная сталіца татараў здавён славіцца сваім агародніцтвам.

Галоўны скульптурны помнік Іўя — вялікая статуя Хрыста каля касцёла на манер знакамітай фігуры ў далёкім бразільскім Рыо-дэ-Жанейра. Сам храм стаіць на месцы колішняга кляштара бернардынцаў. Побач з касцёлам магіла беларускамоўнага каталіцкага святара Ільдафонса Бобіча (ён жа Пётра Просты), які працаваў тут апошнія чатырнаццаць год свайго жыцця і знайшоў свой спачын.

Як сцвярджаюць летапісы мястэчка Іўе было заснавана ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзя. Наконт назвы існуе некалькі версій. Самая простая, што яна паходзіць ад славянскай назвы „іва" — вярба. У XVI стагоддзі тут быў збудаваны замак,створаны па волі княгіні Евы — жонкі вялікага князя Гедыміна. Гэта быў адзін з асветных цэнтраў беларускага сярэднявечча. Тут была закладзена арыянская акадэмія, якой апекаваўся буйны магнат Ян Кішка. Яе рэктарам быў выдатны асветнік Ян Ліцыні Намыслоўскі. Цікава, што гэтую школу наведвалі не толькі пратэстанты, але і дзеці з праваслаўных і каталіцкіх сем'яў. Наўрад ці такое было магчыма ў той час у Заходняй Еўропе.

Татары тут з'явіліся яшчэ ў час Вітаўта, зараз яны жывуць у мікрараёне Мураўшчына, па-ранейшаму славяцца вырошчваннем агуркоў і памідораў. Да вайны яны займаліся таксама гарбарствам, але цяпер гэты промысел прыйшоў у заняпад. Мячэць была пабудавана Эльфрыдай Замойскай, пазней, у 1922 годзе, за грошы, якія прыслалі татары, што эмігравалі адсюль у Амерыку, быў дабудаваны мінарэт. Непадалёк мячэці старыя мусульманскія могілкі — мізар. Што датычыць іншага карэннага насельніцтва — габрэяў, то іх пасля апошняй страшнай вайны тут амаль не засталося.

Астатні раз у Іўе нас з сябрамі занесла, калі падвяло кола аўтамабіля. Пакуль рамонтнікі рабілі сваю справу, мы пашпацыравалі па вулачках мястэчка, якія спалучаюць старую габрэйскую забудову з савецкім сацрэалізмам. Тут можна пабачыць „цёплыя" дамкі і помнік савецкаму салдату на трох камянях, шматроўневы старадаўні млын, у якім размясціўся бар, і новыя дамы.

У пачатку дзевяностых у мястэчку выходзіла самвыдатаўская газета „Івейская крыніца", якую друкавала мясцовая суполка Беларускага народнага фронту. Ужо гадоў дзесяць, як у раёне практычна няма грамадскіх актывістаў. Мясцовы доктар-іншадумец пераехаў у абласны цэнтр, настаўнік-апазіцыянер пасля расчаравальнай выбарчай кампаніі 2001 года перадаў грамадскі факс мясцоваму ксяндзу і сышоў у свае справы. Івейскія крыніцы зараз не б'юць, яны дзесьці ціха струменяць, бруяцца, магчыма чакаюць свайго паўнаводнага часу...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Іаанна ЧАБАН

# Крынскія веласіпедныя серады



У тайм-аўтавым календары крынчаніна назіраецца паступовае запаўненне чыстых да нядаўна старонак. Адбываецца гэта дзякуючы фанатам, ініцыятыўным людзям, якія ў апошнія гады пачалі засяляць паўмёртвае мястэчка. Амаль год таму ў Крынках з'явілася захопленая прыгажосцю месца радавітая беластачанка Наталля Гадлеўская — старшыня суддзейскай калегіі Падляшскага акруговага веласіпеднага саюза. Яна таксама з'яўляецца нацыянальным суддзёй UCI (Union Cycliste Internationale — Міжнароднага саюза веласіпедыстаў). З моманту пераезду паспела нарадзіць сына, якому ўжо паўгодзіка. Каб карысна запоўніць свой вольны час, а заадно застацца ў кантакце з любімай прафесіяй-хобі і проста зрабіць нешта для іншых, спадарыня Наталля рашылася арганізаваць у Крынках веласіпедныя серады. Калісь у дзяцінстве сама ўдзельнічала ў беластоцкіх веласіпедных суботах, якія вёў пакойны ўжо спадар Дабжынскі. Для спадарыні Наталлі была гэта перш за ўсё школа жыцця, самадысцыпліны, ладу, супрацоўніцтва, здаровага саперніцтва. Яна рашыла перадаць свой каштоўны вопыт і тым самым дапамагчы ў надзвычай важнай справе фармавання характараў крынскіх дзяцей і моладзі. Яна спадзяецца, што знойдуцца аднадумцы, якія ўключацца ў развіццё і падтрымку сапраўднай, спартыўнай ідэі. Узнікла думка пра заснаванне спартыўнага клуба, будуць весціся актыўныя пошукі датацый на яго дзейнасць. Колькасць відаў спорту паступова пабольшыцца, напэўна стане намнога лягчэй і цікавей.

Наталлі Гадлеўскай мроіцца заахвочанне як найвялікшай колькасці моладзі да ўдзелу ў спартыўных спаборніцтвах. Таксама патрэбныя валанцёры і спонсары, якія змаглі б, для прыкладу, падарыць ласункі на ўзнагароды маладым удзельнікам. Пакуль яна сама заінвеставала крыху свайго прыватнага бюджэту. Фінансавай падтрымкі не адмовіў Падляшскі акруговы веласіпедны саюз. Крынскі бурмістр закупіў неабходную колькасць веласіпедных, ахоўных касак, без якіх стартаваць нельга.

Другога траўня на плошчы пры вуліцы Касцельнай у Крынках ужо другі раз сабралася каля трыццаці юных крынскіх велагоншчыкаў, каб пад прафесіянальным наглядам спадарыні Гадлеўскай прыняць удзел у велапрабегу. Сам крынскі бурмістр абяцаў удастоіць мерапрыемства сваёй прысутнасцю. На жаль, планам памяшалі нейкія абставіны лёсу і з'явіцца ў гэты раз ён усё-такі не змог. Спадарыня Наталля не спадзявалася так хуткага размаху імпрэзы. Вельмі цешылася, убачыўшы надоўга да старту чакаючых яе дзяцей. Стартавалі яны ў некалькіх узроставых катэгорыях: да пяці, да сямі, затым ад васьмі да дзесяці, ад адзінаццаці да трынаццаці і ад чатырнаццаці да шаснаццаці гадоў. Старэйшыя ўзроставыя катэгорыі дзеляцца яшчэ на хлопцаў і дзяўчат.

Маладыя веласіпедысты ўпарта змагаліся за першыя месцы, не зважаючы на незвычайную ў тую пару года спёку. Смагу ўталялі яны халоднай вадой, якую падавала ім валанцёрка — мама аднаго з маладых спартоўцаў. Сямігадовы Шымон, які ўжо двойчы завяршыў спаборніцтва пакуль з кепскім рэзультатам, прызнаўся, што здавацца не збіраецца. Плануе больш сур'ёзна ўзяцца за падрыхтоўку да чарговых стартаў згодна з вядомай яму тэорыяй, што „трэніроўка робіць майстра". Шыману не так важны рэзультат як сам удзел — гэтыя словы ў хаце паўтарае яму мама, якая прывяла яго сюды. Веласіпедныя серады гэта таксама кайфова праведзены час і нагода для сустрэч з равеснікамі. Тут не было прайграных. Усе ўдзельнікі вярнуліся дахаты з салодкімі падарункамі, чакаючы чарговай сустрэчы.

Фота і тэкст Альжбеты РАМАНЧУК

# Ляці голас па маёвай расе!

Вясна прывяла ў Машчону-Каралеўскую гасцей на фэст, які адбыўся 21 мая. Ля святліцы ў чароўным месцы сабраліся жыхары вёскі, каб паслухаць песень і пагуляць. Мерапрыемства „Ляці голас па маёвай расе" вяла Галена Датчук, якая выступае ў мясцовым калектыве „Навіна". Арганізатарамі фэсту былі Гмінны асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Мельніку, ГП БГКТ у Беластоку, Салэцкая рада, Пажарная каманда і Кола вясковых гаспадынь у Мошчонай-Каралеўскай.



Цудоўнае месца, пах скошанай травы і бэзу пераносілі ў дзіцячыя, казачныя гады. На пачатку выступілі мясцовыя калектывы „Навіна" і „Незабудкі". У апошнім выступаюць маленькія дзеткі з польска-беларускім рэпертуарам. Затым на сцэну выйшлі калектывы з Рыбалаў і „Оморфос" з Сямятыч. Да танцаў заахвочвалі гукі гуртоў „Вясна" і „Сказка" з Беластока.

Арганізатары задбалі, каб была магчымасць падсілкавацца каўбаскамі і марожаным. У той жа самы час святкавалі пажарнікі.

Была магчымасць паглядзець, як некалькі пакаленняў гуляе пры той жа самай музыцы і песнях, што і нашыя дзядулі на вячорках спявалі. Вярталіся з забыцця творы, запісаныя ад старэйшых жыхароў. Адчувалася сямейная атмасфера. Па-за сцэнай відаць было беларускія дываны і ручнікі. А ўсяму прыглядаўся бусел.

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — сербскую пагаворку.

1. абрэвіятура арганізацыі Бан Кі Муна = 12 _ 26 _ 25 _;
2. блізкаўсходні міністр = 11 _ 15 _ 27 _ 14 _ 18 _;
3. Рудальф (1858-1913), нямецкі канструктар дызельнага рухавіка = 8 _ 17 _ 1 _ 24 _ 23 _ 33 _;
4. дачка дзеда = 6 _ 22 _ 32 _ 7 _;
5. порт на захадзе Фінляндыі = 21 _ 19 _ 30 _ 31 _;
6. сталіца дзяржавы з Латгаліяй = 9 _ 10 _ 28 _ 29 _;
7. 7 = 16 _ 20 _ 13 _;
8. Павел Восіпавіч (1895-1975), савецкі канструктар штурмавых самалётаў, народжаны на Гомельшчыне = 2 _ 3 _ 4 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Дупло, род, Дума, санет, штат, вядро, мінамёт, явар, Еўка, Машэраў, салома, буксір.

Рашэнне: **Што вядомае траім, вядомае ўсім.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 03.06 — 09.06

**(22.03. — 20.04.)** Сніўшым пра рамантычнае пачуццё мроі здзейсняцца. 6-10.06. пагражаюць табе галаўныя болі, запаленні, ліхаманка. 3-7.06. не рэагуй імпульсіўна, не пераацані сваіх магчымасцей. 6-10.06. пазбягай размоў з шэфам; будзеш нервовы і лёгка будзе цябе вывесці з раўнавагі.

**(21.04. — 21.05.)** Спадзявайся шчаслівых выпадкаў і ўдалых здарэнняў. Хоць 3-7.06. будуць непатрэбныя нервы, з-за якіх можаш нарабіць памылак: не спяшайся, пільнуй дэталяў. Добры час на супольныя выезды. Не раскідайся грашыма. 4-6.06. трымай язык за зубамі. Можаш стаць ахвярай фірмавых інтрыг або несумленнай гульні супрацоўніка. Не дазваляй сваім пачуццям мяшаць у сваёй прафесійнай дзейнасці. 4.06. можаш выбухнуць дома. Для Быкоў народжаных да 18.05. фінансавая хоса толькі да 11.06. Аж да 27.06. турбаваць цябе будуць перапады настрою.

**(22.05. — 22.06.)** Сфіналізуюцца важныя дамовы. Адчуеш сябе ўпэўнена і бяспечна. Усе падзеі, справы і прыкметы ў гэты тыдзень прынясуць табе поспех. Субота можа стаць пачаткам вялікіх і жарсных пачуццяў.

**(23.06. — 23.07.)** Могуць здзейсніцца шматлікія твае жаданні. У першай палове месяца абмяжуй кампанейскія кантакты, больш адпачывай. З 7.06. паявяцца новыя магчымасці добрага заробку (выкарыстай свае 5 хвілін, нават калі трэба будзе ад чагосьці адрачыся). 7-23.06. атрымаеш прыліў добрай энергіі ад зорак.

**(24.07. — 23.08.)** Прынамсі ў дзве першыя дэкады чэрвеня твае сілы будуць невычэрпныя. На кваліфікацыйныя размовы выбірайся ў першай палове месяца. Ды 6-10.06. будзеш схільны да рызыкі: абдумвай свае дзеянні.

**(24.08. — 23.09.)** Запал да працы. Да 5.06. добры час на інвестыцыі; маеш нос да інтарэсаў і добрых парад. Варта звярнуцца да экспертаў па дзейнасці і персанальных трэнераў. Нічога не вырашай у сур'ёзных справах адзін, калі ты не спецыяліст. У чэрвені будзеш мець шмат нагод да хуткага заробку.

**(24.09. — 23.10.)** Ты цяпер у змозе пераканаць усіх да ўсяго. Ды 3-7.06. зоркі прадбачваюць спрэчкі; на шчасце з вялікай хмары малы дождж. Маеш шанц назбіраць грошай, любавацца імі, ды лепш іх хутка не выдавай. З 7. аж да 23.06. будзеш знакамітым аратарам і медыятарам.

**(24.10. — 22.11.)** У першую дэкаду чэрвеня маеш шанц знайсці знакамітае капіталаўкладанне або прытрапіцца табе геніяльная ідэя на бізнес. Маеш падтрымку супрацоўнікаў. Твой найгоршы вораг — стрэс. Пад пагрозай могуць быць твае кантакты з любімым чалавекам; трымай сябе ў руках, асабліва ў аўторак. У сераду беражы сваю галаву.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш карыстацца папулярнасцю. Дома — крыху як у вязніцы. На працы шмат абавязкаў. Тваё мінулае прыгадае табе аб сабе. Дамы няхай зоймуцца сваім выглядам — будуць ашаламляльныя вынікі! Поўня Месяца 4.06. можа перашкодзіць табе ў асабістых планах.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш пазбыцца пару кілаграмаў. Час бестурботнасці і забавы. Варта купіць штосьці з новай праграмай. 4.06. могуць не ўдацца твае планы, могуць вярнуцца старыя апаскі. Агульна тыдзень абяцае быць паспяховым у фінансавым плане.

**(21.01. — 19.02.)** З 7. аж да 26.06. можаш паспяхова сесці на дыету і добра ды трывала схуднець, таксама варушыся. У чэрвені можаш хутка павялічыць сваю маёмасць. Не будзь снобам і не адварочвайся ад старых сяброў! Пазбудзься стар'я і адсунься ад тых, хто прыносіць у тваё жыццё хаос.

**(20.02. — 21.03.)** Рабі сваё. З 7.06 (да 11.06.) даб'ешся поспеху ў кожнай галіне, нават там, дзе ты не майстар. Твой кашалёк не павінен быць пусты. Можаш пачаць марыць пра новае жыллё, але добра абдумай справы. 4.06. будзеш вельмі раздражняльны, крыўдлівы. Задбай аб доўгі і спакойны сон..

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Больш за пяцьдзесят вучаніц прынялі ўдзел у V Міжгімназічных гульнях дзяўчат па валейболе за кубак Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва», якія 25 мая адбыліся ў Комплексе школ у Кляшчэлях. У спаборніцтве, якое праходзіла ў беларускай атмасферы, змагаліся спартсменкі са школ з дадатковым навучаннем беларускай мове.

# Спаборніцтва за кубак «Нівы»

— Гэта ад мяне выйшла прапанова, каб арганізаваць спаборніцтвы для дзяўчат па валейболе ў беларускай атмасферы. Звярнуўся я з прапановай да галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» Яўгена Вапы, каб рэдакцыя ўзяла патранат над гульнямі. Мы рады, што змаганні адбываюцца за кубак беларускай газеты. Калі ў прэсе паяўляюцца артыкулы са спартыўных турніраў, гэта дадатковы штуршок для чарговых трэніровак і павышэння спартыўных умеласцей вучняў. Мы рады, што ўсе каманды атрымаюць ад тыднёвіка «Ніва» кубкі, а тры пераможныя каманды медалі, — пачаў расказ ініцыятар валейбольных спаборніцтваў Юры Чыквін з бельскай «тройкі». — Мы нашыя змаганні неафіцыйна называем Агульнапольскімі міжгімназічнымі спаборніцтвамі па валейболе дзяўчат са школ, дзе адбываецца навучанне беларускай мове. Беларускія песні і беларуская атмасфера ў час спаборніцтваў аб'ядноўваюць моладзь з нашых школ.

Першыя тры спаборніцтвы за кубак «Нівы» адбываліся ў бельскай «тройцы», а ў мінулым годзе і сёлета ладзіліся ў Кляшчэлях, у прыгожым школьным комплексе, які — так як будынкі Гайнаўскага белліцэя і Пачатковай школы ў Нараўцы — будаваўся на сродкі Міністэрства адукацыі Польшчы накіраваныя на развіццё адукацыі беларускай нацыянальнай меншасці. Мае суразмоўцы, настаўнікі фізкультуры і беларускай мовы гаварылі, што ў выпадку валейбольнага турніру самымі важнымі з'яўляюцца не спартыўныя вынікі, толькі атмасфера мерапрыемства, з ухілам на інтэграцыю моладзі і супольна міла праведзены час. Песню «Люблю наш край, старонку гэту», якая раней стала гімнам Бельскага белліцэя, удзельнікі гульняў сталі таксама лічыць гімнам валейбольных спаборніцтваў пад патранатам нашага тыднёвіка. Гімн прагучаў таксама перад адкрыццём кляшчэлеўскіх гульняў. Да сабраных з цёплымі словамі на беларускай мове звярнуўся дырэктар Комплексу школ у Кляшчэлях Славамір Трашчотка:

— Гэта была вельмі цікавая ідэя, каб наладзіць валейбольны турнір для вучняў са школ, дзе выкладаецца беларуская мова. У час гульняў гучаць беларускія песні, а паміж настаўнікамі і некаторымі вучнямі завязаліся ўжо сяброўскія суадносіны. Я думаю, што спаборніцтвы будуць надалей арганізавацца.

— Я вельмі эмацыйна ўспрыняла гімн «Люблю наш край..» і таму праслязілася ў час яго выканання. Словы нам вельмі блізкія, а мелодыя кранае сэрца, — заявіла Анна Нікіцюк з бельскай «тройкі».

— Каманда з Кляшчэляў па-за нашымі магчымасцямі і яна напэўна стане пераможцам турніру, а хто зойме чарговыя месцы цяжка зараз прадказаць. Тыя дзяўчаты, што ігралі ў мінулых гадах, закончылі ўжо вучобу ў «тройцы» і зараз амаль усе нашыя вучаніцы ўпершыню ўдзельнічаюць у беларускім турніры, — гаварыў настаўнік фізкультуры з Бельска Юры Чыквін.

Сапраўды, дзяўчаты з Комплексу школ у Кляшчэлях ігралі вельмі добра, хаця нават частка валейбалістак з першага складу каманды не прыступіла да спаборніцтваў. Пасля стала іграць кляшчэлеўская каманда ў іншым складзе, але і яна перамагала. Настаўнік фізкультуры з Кляшчэляў, трэнер валейбалістак Эдвард Тэрэбун расказаў пра поспехі яго гімназістак, якія належаць да адной з самых лепшых валейбольных гімназічных каманд Падляшскага ваяводства. У мінулым школьным годзе толькі пасля зацятага змагання мінімальна саступілі яны камандзе з Монек і занялі другое месца ў Гімназіядзе Падляшскага ваяводства па валейболе. У гэтым школьным годзе ў час змагання за фінал трапілі на каманду з Монек, але, прайграўшы з ёй, здолелі яшчэ заняць трэцяе месца ў ваяводстве. Мелі нагоду змагацца ў ліку самых лепшых гімназічных валейбольных каманд Польшчы і ігралі з самымі лепшымі камандамі з Літвы і Украіны.

— Мелі мы рэальны шанц перамагчы самую лепшую вучнёўскую каманду з Літвы (дзяўчаты ў падобным узросце — А. М.). Самая лепшая вучнёўская валейбольная каманда з Украіны іграла ўжо намнога лепш ад нашых дзяўчат і мы ўжо заўважальна саступалі ёй узроўнем ігры, — удакладніў Эдвард Тэрэбун.

— Наш настаўнік фізкультуры вельмі многа займаецца з валейбалісткамі. Хаця ў яго малыя дзеткі, ён дадаткова на грамадскіх пачатках спатыкаецца з валейбалісткамі пасля заняткаў па некалькі разоў у тыдзень і ўвдзе трэніроўкі таксама па суботах і нядзелях. У выніку відаць вельмі станоўчыя рэзультаты яго працы, — сказаў дырэктар Славамір Трашчотка.

Трэнер Эдвард Тэрэбун сказаў, што галоўнае ядро школьнай валейбольнай каманды ў Кляшчэлях састаўляюць вясковыя дзяўчаты з Тапароў, Дашоў, Сакоў і Дабрывады, хаця таксама ўдала іграюць кляшчэлеўскія вучаніцы.

— Важна, каб дзяўчаты набылі добрыя тэхнічныя ўмеласці і навучыліся, што канкрэтна маюць рабіць у розных абставінах у час матчаў, бо без гэтага цяжка дабіцца поспехаў. З вясковымі дзяўчатамі больш складана спатыкацца на трэніроўках, асабліва зімой, па прычыне рэжыму курсіравання аўтобуснага транспарту для вучняў. Адна дзяўчына вельмі хацела трэніравацца, але яе вёска моцна аддалена ад Кляшчэляў, а ёй яшчэ прыходзіцца штодзень дапамагаць бацькам у гаспадарчых работах. Даў я ёй мячык і яна стала самастойна трэніравацца дома. Бацька гаварыў, што стукае і стукае гэтым мячыкам аб сцяну клуні. Я быў вельмі моцна станоўча ўражаны, калі ўбачыў якія вялікія поспехі зрабіла яна, трэніруючы самастойна, — сказаў Эдвард Тэрэбун.



Пераможная каманда з Комплексу школ у Кляшчэлях з бурмістрам Ірэнай Негярэвіч і трэнерам Эдвардам Тэрэбуном

Самай лепшай валейбалісткай у кляшчэлеўскай камандзе з'яўляецца Караліна Коўшук з Тапароў, якая таксама вельмі ахвотна вучыцца беларускай мове. Сярод самых лепшых валейбалістак трэнер назваў таксама Джасіку Паўловіч і Кацярыну Балейка.

— Заняткі беларускай мовы вельмі цікавыя. Цікава вядзе іх наш дырэктар Славамір Трашчотка. Аднак самае вялікае маё хобі — гэта валейбол, якому я прысвячаю многа часу, — гаварыла Караліна Коўшук. — Свае ўмеласці па валейболе мы здабывалі ў час шматлікіх індывідуальных трэніровак і супольнай ігры ў камандзе, пачынаючы з чацвёртага класа падставовай школы. Ад першага класа гімназіі мы выступаем таксама ад імя Вучнёўскага народнага спартыўнага клуба «Арол» з Кляшчэляў, што дзейнічае пры нашай школе. Ігра ў валейбольнай камандзе гэта калектыўная ігра, якая нас аб'ядноўвае. Выступаючы ў розных месцах, маем магчымасць знаёміцца з новымі людзьмі і гарадамі. Аднак усё ж такі асабліва падабаецца нам турнір за кубак «Нівы», якую чытаюць у нашых вёсках.

Валейбалісткі з кляшчэлеўскай школы самі дапаміналіся ў настаўніка фізкультуры, каб ізноў арганізаваць валейбольны турнір пад патранатам «Нівы», дапамагалі падрыхтаваць пачастунак для гасцей і падлічыць вынікі змаганняў. Усе ўдзельнікі спаборніцтваў і іх апекуны былі запрошаны на школьны абед.

— У нашай камандзе амаль усе мы з новага складу, які яшчэ не змагаўся на гэтых спаборніцтвах і таму будзем здабываць вопыт. Важна, каб добра гуляць, бо тады і ўспаміны будуць добрымі. Мы зараз пачынаем гаварыць па-свойму, каб атмасфера добрай была, — сказалі Кінга Бадавец, Аляксандра Варшыцкая, Анна Нікіцюк і Наталля Кавецкая з бельскай «тройкі».

— Нашыя дзяўчаты ахвотныя былі ехаць на валейбольныя гульні. Могуць яны спраўдзіць свае ўмеласці і спаткацца з сяброўкамі з іншых школ, — сказала настаўніца фізкультуры Крысцінія Кісляк з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

— Мы ўжо другі раз на гэтым турніры і файна тут. Вучымся на сваіх памылках і здабываем вопыт. Вучоба ў беларускай школе абавязвае ўдзельнічаць у беларускіх спаборніцтвах, — сказалі Ася Целушэцкая, Раксана Козуб і Марлена Трусевіч з Гайнаўскай белгімназіі.

— Нашыя ўражанні ад мерапрыемства супер. Адбываецца інтэграцыя моладзі, ёсць ахвотныя іграць, — гаварыла Альжбета Рудкоўская з Гімназіі № 7 у Беластоку.

— Нам вельмі тут падабаецца. Цікавыя перш за ўсё гульні, але цікава таксама пазнаёміцца з моладдзю. Хацелі б мы дабіцца трэцяга месца, але не ведаем, ці ўдасца, — заявілі беластоцкія гімназісткі, навучэнцы беларускай мовы Юліта Тымашэвіч, Дар'я Дажынка і Юліта Якацюк.

— Добра, што «Ніва» спансаруе мерапрыемства. Мы сёння першы раз на такіх спаборніцтвах і нам спадабалася тут. Дзяўчатам цікава праверыць свае ўмеласці. Важна таксама, каб здабываць новы вопыт, — заявіла настаўніца фізкультуры з Комплексу школ у Нараўцы Аліна Аўрук.

Пасля падвядзення вынікаў спаборніцтваў аказалася, што першае месца заняла валейбольная каманда з Комплексу школ у Кляшчэлях, якая выйграла ўсе матчы. Другое месца занялі дзяўчаты з Комплексу школ у Нараўцы, а трэцяе — гімназісткі з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. На чацвёртым месцы апынуліся вучаніцы з Гімназіі № 7 у Беластоку, а пятае месца занялі белгімназісткі з бельскай «тройкі». Аднак па-за кляшчэлеўскай камандай узровень выступаў усіх апошніх чатырох каманд мала розніўся. Змаганні былі зацятымі, асабліва матч паміж камандамі з Беластока і Бельска-Падляшскага.

— Раней штогод займалі мы другія месцы, а ў гэтым годзе так не атрымалася. Але і так бывае на спартыўных спаборніцтвах, — сказаў Юры Чыквін з бельскай «тройкі».

Усе кубкі і медалі ўручыла бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, звяртаючы ўвагу на асабліва характар спаборніцтваў за кубак нашага тыднёвіка. Апрача каманд вылучаны былі таксама па адной самай лепшай валейбалістцы з паасобных школ.

ISSN 0546-1960